ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 36 21 верасня 1995 г.
(2438) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

## З РОДУ КУНЦЭВІЧАЎ-АГІНСКІХ

### ВЕРСІЯ САЦЫЯЛЬНАГА ПАХОДЖАННЯ МАСТАКА ЧЫКЕРА, АЛЬБО ПРА ЧАС, ЯКІ ВЫБІВАЎ З БЕЛАРУСАЎ ГІСТАРЫЧНУЮ ПАМЯЦЬ

У доме N 22, што на праспекце газеты "Праўда" нашай сталіцы, жыве надзвычай цікавы і сімпатычны чалавек -- Ігар Чыкер. Ён ветэран ды інвалід Вялікай Айчыннай вайны, якая "прынесла" яму не толькі тры ордэны і цэлы тузін медалёў (сярод усіх гэтых узнагарод Ігар Аляксандравіч найбольш ганарыцца медалём "За ўзяцце Берліна"), але ж два раненні і дзве кантузіі. Па прафесіі, па адукацыі ён мастак, хаця і не член Саюза мастакоў. Дарэчы, яшчэ ён ніколі не быў членам Усесаюзнай піянерскай арганізацыі імя У.І. Леніна, а таксама -- членам КПСС. Праўда, камсамольцам быў, калі ваяваў у партызанах і на фронце.

На адной з рэспубліканскіх выстаў, што праходзіла ў Палацы мастацтва, мяне ўразіў нацюрморт з чырванабокімі крамянымі яблыкамі. Гэта была выдатная карціна, напісаная алеем у духу часоў Рэпіна і мастакоў-перасоўнікаў (я маю слабіну перад жывапісам рускай ды еўрапейскай класічнай школы). А потым я звярнуў увагу на аўтарства. Як высветлілася, гэтае таленавітае палатно стварыў Ігар Чыкер-Агінскі.

Чаму пасля дэфіса значыцца прозвішча "Агінскі"? Каб атрымаць адказ на пытанне, я і знайшоў мастака -- сярэдняга росту хударлявага чалавека з густой чупрынай сівых валасоў -- у ягонай кватэры ў Паўднёва-Заходнім мікрараёне.

-- Скажыце, Ігар Аляксандравіч, чаму вы, падпісваючы ўласныя творы, да свайго прозвішча дадаяце прозвішча заснавальнікаў славутага роду Вялікага Княства Літоўскага? -- спытаўся я ў гэтага чалавека падчас нашай сустрэчы.

-- Таму што маю дачыненне да гэтага роду. Я адзін з нашчадкаў Агінскіх, -- упэўнена адказаў суразмоўца.

Зразумела, што я ветліва, але настойліва папрасіў даць свае тлумачэнні, абгрунтаваць. Наша размова адбывалася якраз напярэдадні 25 верасня, калі спаўнялася 230 год з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага, славутага змагара за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны падчас вызвольнага паўстання 1794 года супраць царскіх каланізатараў, дыпламата і кампазітара. Мне было цікава, хто ж яны такія, сённяшнія нашчадкі Міхала Клеафаса, як жывуць, чым жывуць, ці адчуваюць сябе спадкаемцамі вялікага продка.

Вось што распавёў Ігар Аляксандравіч.

...Ён нарадзіўся 30 жніўня 1926 года ў маёнтку свайго дзеда Кунцэвіча-Агінскага Івана Фёдаравіча ў Рудні Кашалёўскай, што на Гомельшчыне, хаця ў пашпарце запісаны месцам нараджэння горад Гомель. Бацька, Аляксандр Мікалаевіч Чыкер, -- адзін з прадстаўнікоў санкт-пецярбургскага роду, які даваў Расіі прафесійных вайсковых афіцэраў. Так, родны дзядзька Ігара Аляксандравіча віцэ-адмірал Уладзімір Мікалаевіч Чыкер падчас апошняй вайны меў дачыненне да ратавання Балтыйскага флоту ў раёне Ладажскага возера. Маці ж -- дачка Івана Фёдаравіча Кунцэвіча-Агінскага -- Ніна Іванаўна.

Дык вось, гэта шляхецкае адгалінаванне Кунцэвічаў-Агінскіх і стварылася на пачатку XIX стагоддзя шляхам шлюбу вельмі далёкай прапрабабкі з роду Агінскіх, што жылі ў Запессі, і прапрадзеда з роду Кунцэвічаў, які жыў у Рудні Кашалёўскай. На вялікі жаль, імёны гэтыя са смерцю Івана Фёдаравіча зніклі. Праўда, родзічы -- Марыля Агінская і Даніла Кунцэвіч-Агінскі, што жывуць у Польшчы, а таксама група нашчадкаў Кунцэвічаў і Агінскіх з Францыі маглі б поўнасцю аднавіць радавод. Але савецкія ўлады, пачынаючы з 1929 года, добра прыклаліся, каб знішчыць гістарычную памяць аб вялікіх продках у іхніх нашчадкаў XX стагоддзя.

-- Як гэта здарылася і чаму ў 1929 годзе? -- спытаўся я ў Ігара Аляксандравіча.

-- Дзедава сядзіба ў першае дзесяцігоддзе савецкай улады ўяўляла сабою млын, крупадзёрку, велізарны сад, акрамя некалькіх гектараў зямлі і прасторнага дома з мноствам пакояў і падсобных памяшканняў. Дык вось, у 1929 годзе, калі пачалася калектывізацыя, у доме чэкісты правялі вобыск, знайшлі ягоную дваранскую грамату і разарвалі яе на дробныя шматкі: маўляў, вось што мы зрабілі з тваім шляхецтвам: быў дваранінам -- стаў нікім, горшым за батрака. Млын ды крупадзёрку, ужо не гаворачы пра сад і зямлю, -- усё адабралі ў новастворany калгас. А Івана Фёдаравіча спачатку выслалі на перавыхаванне ў знакаміты Салавецкі лагер, а адтуль -- у Сібір. Праўда, бабку маю неўзабаве вярнулі дамоў, "на парукі" (а бабуля, Марыя Васільеўна, у дзявоцтве -- Лапіцкая, між іншым, таксама прадстаўніца аўтарытэтнага шляхецкага роду Лапіцкіх, яе брат Барыс Васільевіч Лапіцкі, які прыняў савецкую ўладу, даволі працяглы час працаваў начальнікам станцыі Радзеева...). Вярнуўся дзядуля ў Беларусь, на радзіму, ужо ў 1937 годзе, як чалавек, што добра такі "перавыхаваўся" з дапамогай ударнай працы. Ён быў выдатным механікам, прыдатным для народнай гаспадаркі спецыялістам.



НА ЗДЫМКУ: Ігар ЧЫКЕР-АГІНСКІ.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## ДАВАЙЦЕ ШУКАЦЬ ВЫЙСЦЕ РАЗАМ

**Інтэрв'ю са старшынёю праўлення Рэспубліканскай партыі Уладзімірам БЕЛАЗОРАМ**

*— Уладзімір Якаўлевіч, калі сёння аналізуеш праграму той ці іншай партыі, шукаеш галоўнае -- якія прапануюцца шляхі вываду Беларусі з крызісу. І часцей за ўсё рэальных рэцэптаў не знаходзіш...*

— Не сакрэт, што для выхаду з крызісу зусім не трэба распрацоўваць канцэпцыю праграмы развіцця эканомікі рэспублікі да 2000 года, як гэта зараз робяць эканамічныя інстытуты. Але ці могуць яны самі растлумачыць, што і куды, у якім кірунку сёння развіваць? У нас у сферы матэрыяльнай вытворчасці занята практычна 80 працэнтаў насельніцтва і толькі 20 прцэнтаў у сферы абслугоўвання. У іншых дз[illegible]вах працэнтныя суадносін[illegible]эктычна адваротныя. Як толькі пачаўся працэс распаду Савецкага Саюза, мы гэта і адчулі. Сталі самастойнымі, і цэны адразу ўзняліся да сусветнага ўзроўню. І калі раней цэны на нафту ці энергарэсурсы былі ў тры-чатыры разы ніжэйшыя за сусветныя, то сёння па некаторых паказчыках прадукцыя, якую мы атрымліваем, аказалася значна даражэйшай. Як можна гаварыць пра яе рэалізацыю, калі прадукцыя наша матэрыялаёмістая і энергаёмістая і таму на знешнім рынку не карыстаецца попытам.

*-- Натуральна, паўстае пытанне, як пераўтварыць гэтую самую прадукцыю ў навукаёмістую? Што патрэбна для гэтага?*

-- У першую чаргу, час. Спачатку трэба вызначыць прыярытэты нашай эканомікі, якая прадукцыя будзе канкурэнтаздольнай, якую трэба замяняць, а якія прадпрыемствы ўвогуле трэба закрыць, каб пасля прыватызаваць.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Флюгер (Мінская епархія). Работа Юрыя ЛЮБІМАВА.

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ВІЗІТ А.ЛУКАШЭНКІ Ў МАЛДОВУ*



**11--12 верасня адбыўся афіцыйны візіт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ў Рэспубліку Малдова.**

**Адбылося падпісанне кіраўнікамі дзяржаў двухбаковых урадавых і міжведамасных дагавораў. На прэс-канферэнцыі для журналістаў прэзідэнты дзвюх дзяржаў адзначылі плён прайшоўшых перагавораў.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра ЛУКАШЭНКІ з Прэзідэнтам Рэспублікі Малдова Мірча СНЕГУРАМ.**

*МІЖНАРОДНЫ СКАНДАЛ*

## ЗБІТЫ ПАВЕТРАНЫ ШАР

**12 верасня ў 13 гадзін 50 хвілін у Бярозаўскі РАУС звярнуўся намеснік камандуючага Ваенна-паветранымі сіламі Рэспублікі Беларусь па знішчальнай авіяцыі палкоўнік Лазер. Ён расказаў, што ў 11.55 вайсковы верталёт паблізу вёскі Круглае Бярозаўскага раёна збіў лятальны апарат. Паводле папярэдніх даных, гэта быў метэаралагічны ці нейкі іншы зонд.**

**У 14.15 у лясным масіве каля ўказанай вёскі пошукавая брыгада знайшла рэшткі кашолкі ад паветранага шара. Там знаходзіліся два трупы мужчын з цялеснымі пашкоджаннямі, якія характэрныя пры падзенні з вялікай вышыні. Потым высветлілася [illegible]то гэта былі грамадзяне ЗША Алан Бэрхард Фр[illegible]ь і Джон Сцюарт-Гервіс. Яны ўдзельнічалі ў [illegible]м чэмпіянаце паветраных шароў у рамках кубка "Гордэн Бенет-95", які пачаўся 9 верасня ў Швейцарыі.**

**Нягледзячы на тое, што Беларусь яшчэ ў красавіку атрымала паведамленне ад арганізатараў Кубка і дала згоду на палёты, шар быў збіты. Па ім з верталёта было выпушчана 20 куль з буйнакаліпернага [illegible]мёта.**

**Вайскоўцы матывуюць сваё рашэнне тым, што шар не меў апазнавальных знакаў, не адказваў на радыёзапыт і не рэагаваў на папярэднія стрэлы.**

**Аказваецца, дастаткова было аднаго стрэлу ў шар, каб ёнператварыўся ў парашут і гандола плаўна спусцілася на зямлю.**

**Урад Беларусі ў афіцыйнай заяве выказаў шкадаванне ў сувязі з авіяцыйным здарэннем, у выніку якога ёсць чалавечыя ахвяры. Але паведамленне аб гэтым амерыканскі бок атрымаў толькі праз 24 гадзіны пасля трагічнага інцыдэнту.**

**Распараджэннем Прэзідэнта створана дзяржаўная камісія па расследаванню гэтага здарэння.**

## ЗАЯВА ДЛЯ ПРЭСЫ

### ДЗЯРЖАЎНАГА ДЭПАРТАМЕНТА ЗША АДНОСНА ІНЦЫДЭНТУ З ПАВЕТРАНЫМ ШАРАМ У БЕЛАРУСІ

**13 верасня беларускія ўлады пацвердзілі, што 12 верасня над беларускай тэрыторыяй быў збіты паветраны шар. Амерыканскі экіпаж у саставе двух чалавек загінуў.**

**Яшчэ адзін паветраны шар быў вымушаны зрабіць пасадку. Двое членаў яго экіпажа -- таксама грамадзян ЗША -- цэлыя і здаровыя. Яны ўжо звязаліся з пасольствам ЗША ў сталіцы Беларусі Мінску.**

**Консульскі супрацоўнік пасольства выехаў у г.Бярозу, дзе знаходзяцца астанкі загінуўшых амерыканцаў.**

**Урад Беларусі запэўніў у сваёй гатоўнасці да поўнага і адкрытага супрацоўніцтва па гэтаму інцыдэнту, уключаючы свабодны консульскі доступ.**

**Экіпажы ўдзельнічалі ў міжнароднай гонцы паветраных шароў, арганізаванай швейцарскім аэраклубам. Па словах прадстаўніка аэраклуба, дазволы на палёты былі загадзя атрыманы ад усіх еўрапейскіх краін, уключаючы Беларусь.**

**Дзяржаўны дэпартамент ЗША падтрымлівае кантакт з беларускімі афіцыйнымі асобамі ў Вашынгтоне і Мінску. Беларускі бок выказаў шкадаванне з прычыны трагічнага інцыдэнту і паабяцаў, што афіцыйнай урадавай камісіяй будзе праведзена яго расследаванне.**

**Беларускаму боку было заяўлена, што мы лічым непрымальным тое спазненне, з якім Злучаным Штатам Амерыкі было паведамлена аб здарэнні, і было прапанавана аказаць усякае садзейнічанне пасольству ЗША ў Мінску і забяспечыць поўны консульскі доступ. Дзяржэпартамент таксама заклікаў беларускія ўлады да правядзення поўнага і стараннага расследавання.**

*У КАНСТЫТУЦЫЙНЫМ СУДЗЕ*

## ЗАКОННАСЦЬ ПРЭЗІДЭНЦКІХ УКАЗАЎ

**Канстытуцыйны суд разгледзеў прапановы Старшыні Вярхоўнага Савета Мечаслава Грыба аб праверцы адпаведнасці Канстытуцыі і законам указаў Прэзідэнта Беларусі.**

**Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, размова ідзе аб наступных трох указах, выдадзеных у гэтым годзе: ад 9 жніўня N 299 "Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку выдачы дыпламатычных і службовых пашпартоў грамадзянам Рэспублікі Беларусь", ад 1 верасня N 349 "Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян" і N 350 "Аб некаторых пытаннях рэгулявання працоўнай дзейнасці і пенсіённага забеспячэння грамадзян".**

**Па ўсіх гэтых указах Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі Канстытуцыйны суд прыняў рашэнні аб узбуджэнні вытворчасці па справе.**

*ДАТЫ*

## БІТВА ПАД ОРШАЙ

**8 верасня беларуская грамадскасць адзначала Дзень беларускай воінскай славы.**

**У Мінскім Доме літаратара адбылося адкрыццё выстаўкі дыпломных работ выпускнікоў Мінскага мастацкага вучылішча, прымеркаванай да дня 8 верасня. З прывітальным словам перад прысутнымі ў вялікай зале Дома літаратара выступіў старшыня Управы Сойма БНФ З. Пазьняк. "Нацыянальнае свята беларускай воінскай славы прыйшло да нас з глыбіні стагоддзяў, калі Беларусі даводзілася адстойваць сваё права на незалежнасць кап'ём і мячом. Перамога пад Оршай дазволіла нам доўгія дзесяцігоддзі эканамічна і культурна развівацца як самастойнай дзяржаве", -- сказаў З. Пазьняк.**

**Дзень беларускай воінскай славы стаў адзначацца ўсяго толькі пяць год назад. Аднак у гэтым годзе гарадскія ўлады г. Мінска забаранілі святочныя шэсці і мітынгі, што сталі ўжо традыцыйнымі. Праўда, такія адносіны да нацыянальнага свята былі не ўсюды. Найбольш шырока дзень 8 верасня адзначаўся ў Гродне і Оршы. У 481-ю гадавіну перамогі беларускага войска ў Аршанскай бітве на месцы тых баёў у памяць аб героях быў устаноўлены дубовы крыж.**

*ДАПАМОГА БЕСПРАЦОЎНЫМ*

## У КАПЕЕЧКУ

**Дапамогу па беспрацоўю на канец ліпеня [illegible]рымалі ў краіне 55,9 тыячы чалавек, або 48,7 пр[illegible]та ад агульнай колькасці беспрацоўных. Затр[illegible] на выплату дапамогі па беспрацоўю за ліпень склалі 4 450,2 мільёна рублёў, а сярэдні памер дапамогі па беспрацоўю -- 81 684 рублі.**

**Акрамя афіцыйнага ў краіне ёсць і скрытае беспрацоўе. У студзені--чэрвені ў рэжыме няпоўнай занятасці ў прамысловасці працавала 586,2 тысячы чалавек.**

*ПАСЛЯ РЭФЕРЭНДУМУ*

## ТОЛЬКІ ЧАТЫРЫ БЕЛАРУСКІЯ КЛАСЫ

**У новым навучальным годзе бацькі большасці брэсцкіх першакласнікаў аддалі сваіх дзяцей у рускамоўныя класы. Нягледзячы на жаданне гарадскіх уладаў пайсці насустрач прыхільнікам роднай мовы, іх аказалася няшмат.**

**Толькі чатыры першыя класы пачалі навучанне дзяцей на матчынай мове, прычым у двух з іх -- па 15 чалавек, у той час як у абласным цэнтры налічваецца амаль чатыры дзесяткі сярэдніх навучальных устаноў.**

**Усяго ў гарадскіх школах навучанне на беларускай мове працягвае 131 клас. Значная частка вучняў пераведзена ў рускамоўныя класы па жаданню бацькоў, якія палічылі "вялікую і магутную" мову больш важнай і перспектыўнай.**

*КОНКУРС*

## ПА НАВУКУ Ў ЗША

**Урад ЗША аб'явіў конкурс на саісканне стыпендый па праграме навучання імя Эдмунда Маскі на 1996 год. Тэрмін навучання 1--2 гады.**

**Пераможцы конкурсу атрымаюць магчымасць прайсці курс тэарэтычнай падрыхтоўкі і павысіць прафесіянальную кваліфікацыю па адной з наступных спецыяльнасцей: кіраванне камерцыйнай дзейнасцю, дзяржаўнае кіраванне, эканоміка, юрыспрудэнцыя. Акрамя таго, некаторыя стыпендыяты, якія маюць як мінімум трохгадовы вопыт работы ў той галіне, дзе яны спецыялізуюцца, атрымаюць магчымасць прайсці курс навучання ў навучальных установах ЗША. Адміністрые гэту праграму на тэрыторыі Беларусі інфармацыйны цэнтр Фонду Сораса па пытаннях адукацыі ў ЗША, які знаходзіцца ў Мінску.**

## ЗАЯВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У апошні час на фоне пагаршэння эканамічнага становішча краіны, абвастрэння сацыяльных канфліктаў дзеяннямі і заявамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і падначаленых яму кіраўнікоў выканаўчай улады штучна распальваецца палітычнае процістаянне з Вярхоўным Саветам.

Як крайнюю праяву непавагі да вышэйшага органа заканадаўчай улады Вярхоўны Савет расцэньвае адмову вышэйшых службовых асоб выканаўчай улады зрабіць справаздачу аб выкананні бюджэту дзяржавы за 1995 год. У гэты ж час значныя сумы бюджэтных сродкаў расходуюцца на фінансаванне не самых важных патрэбнасцей грамадства. Нельга не адзначыць, што са жніўня 1994 года Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь з перавышэннем яго кампетэнцыі прынята некалькі дзесяткаў указаў, якія супярэчаць Канстытуцыі і законам нашай дзяржавы, ушчамляюць палітычныя і эканамічныя правы мільёнаў грамадзян.

Такая сітуацыя небяспечная тым, што насельніцтва рэспублікі пазбаўляецца магчымасці кантраляваць дзеянні выканаўчай улады. Строгае выкананне Канстытуцыі і законаў ператвараецца ў абавязак толькі для простых грамадзян. Гістарычны вопыт сведчыць, што парушэнне Канстытуцыі і законаў прыводзіць да трагічных вынікаў.

Выражаючы крайнюю занепакоенасць такім развіццём падзей, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання заяўляе, што да сфарміравання новага складу парламента ён абавязаны выконваць свае функцыі ў строгай адпаведнасці з Канстытуцыяй. Вярхоўны Савет патрабуе выканання Канстытуцыі і законаў і ад Прэзідэнта, і ад любога іншага прадстаўніка ўлады.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь гатовы да канструктыўнага ўзаемадзеяння з Прэзідэнтам, але рашуча адвяргае неканстытуцыйнае ўмяшанне кіраўнікоў выканаўчай улады ў сферу кампетэнцыі іншых галін улады.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь лічыць, што адзіна прымальнай формулай адносін заканадаўчай і выканаўчай улады з'яўляюцца раўнапраўны дыялог, сумесны пошук рашэнняў, заснаваны на ўзаемнай павазе, строгім выкананні Канстытуцыі і законаў.

**7 верасня 1995 года.**

*СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ*



**У калгасе імя Свярдлова Жлобінскага раёна культывуюць дзесяткі розных высокаўраджайных сартоў кукурузы, прызначанай на насенне, на дослед-ных участках вырошчваюць насенне гібрыдаў першага пакалення.**

**НА ЗДЫМКУ: галоўны аграном гаспадаркі Мікалай ЗІНАВЕНКА і аграном-насеннявод Святлана ФІЦЭНКА на адным з доследных участкаў.**



**На Брэстчыне ідзе ўборка бульбы. У Іванаўскім раёне першым вывеў камбайны на бульбяныя плантацыі калгас імя Леніна. Асабліва добры ўраджай клубняў вырашчаны на меліяраваных землях. Да двухсот цэнтнераў бульбы збіраюць тут з гектара.**

**НА ЗДЫМКУ: ва ўрочышчы Ямнае ўборку вядуць механізатар Уладзімір КЛІМАВЕЦ і камбайнер Віталій КУЗМІЧ.**

# ДАВАЙЦЕ ШУКАЦЬ ВЫЙСЦЕ РАЗАМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Я думаю, што знойдуцца ўласнікі, якія на базе нізкарэнтабельных і неэфектыўных вытворчасцей змогуць стварыць высокаэфектыўныя.

*-- Чаму, на ваш погляд, трэба зараз аддаць прыярытэт?*

-- Канешне, аграпрамысловаму комплексу, бо крызіс у сельскай гаспадарцы аўтаматычна азначае катастрофу для ўсёй рэспублікі. На другое месца я сёння паставіў бы задачу структурнай перабудовы эканомікі. Так, гэты працэс можа запатрабаваць шмат часу, бо зусім не проста пазбавіцца ад матэрыялаёмістай, энергаёмістай эканомікі і стварыць навукаёмістыя вытворчасці.

*-- Як гэта зрабіць на практыцы?*

-- Няма патрэбы гаварыць аб неабходнасці замены старога абсталявання новым, аб абнаўленні састарэлых тэхналогій. Але ці так неабходна закупляць і тое, і іншае за мяжой? Можна абысціся і ўласнымі сіламі. У першую чаргу давайце ўспомнім аб нашым ваенна-прамысловым комплексе (ВПК), які сёння практычна не дзейнічае. А гэта -- 75 працэнтаў станкабудавання ў агульным аб'ёме вытворчасці. Лепшыя вучоныя ад'язджаюць за мяжу, прычым там наш інтэлектуальны патэнцыял купляюць па вельмі нізкіх цэнах. Дык чаму б на базе ВПК не ствараць тыя тэхналагічныя лініі, тое абсталяванне, якое зараз патрэбна і ў сферы абслугоўвання, і ў матэрыяльнай вытворчасці, і ў сельскай гаспадарцы? Такім чынам мы створым новыя рабочыя месцы для нашых вучоных і інжынераў і не будзем больш выпускаць на высокакласным абсталяванні каструлі, тазы і дзіцячыя цацкі.

*-- Як вы лічыце, ці існуе зараз у дзяржавы тактыка ажыццяўлення эканамічных рэформ?*

-- Думаю, што не, бо мы не маем ясна сфармуляванай эканамічнай стратэгіі, дзяржава займаецца рэгуляваннем рынку і ажыццяўленнем эканамічных рэформ. Усе краіны, якія пераходзілі да рынку, вялікую ўвагу ўдзялялі сацыяльнай сферы, таму што ўсе цяжкасці, звязаныя з пераходам да рынку, натуральна, адбіваюцца на жыццёвым узроўні чалавека, і ўсе дзяржавы робяць ухіл на развіццё сацыяльнай сферы, сферы паслуг, будаўніцтва.

У нас ідзе няўхільны спад ва ўсіх галінах, бо галіны-лакаматывы не вызначаны. Нядаўна я прачытаў у "Нацыянальнай эканамічнай газеце" канцэпцыю развіцця дзяржаўнай эканомікі да 2000 года. Калі пішуць, што за два бліжэйшыя гады можна выйсці з крызісу, у гэта проста немагчыма паверыць. Але выходзіць з крызісу праз прыватызацыю нізкарэнтабельных прадпрыемстваў, не думаючы пра лёсы людзей, што на іх працуюць, немагчыма. Прыватызацыя ў першую чаргу разлічана на павышэнне эфектыўнасці. Калі я станаўлюся ўласнікам нізкарэнтабельнай вытворчасці, я буду старацца, каб на яе базе з'явіліся і рабочыя месцы, і канкурэнтаздольная прадукцыя. Але для гэтага патрэбна адаптацыя, якая разлічана, як мінімум, на 3--4 гады. Толькі тады, калі за гэты тэрмін прадпрыемства не вызначылася, вырашаецца пытанне аб прыватызацыі ці банкруцтве. Але сёння і так пытанне не паставіш, бо няма нармальнага закона аб банкруцтве, няма нармальнага закона аб уласнасці і абароне ўласнасці.

*-- Як вы ставіцеся да размоў аб акцыяніраванні калгасаў і саўгасаў сумесна з перапрацоўчай прамысловасцю?*

-- У такім жа аспекце праблема ўздымалася ўжо дзесяць-пятнаццаць год таму. Тады, у час адміністрацыйнай эканомікі, гэта было магчыма. Але сёння ўздымаць пытанне аб акцыяніраванні, калі калгасы і саўгасы ляжаць на лапатках, а перапрацоўчая прамысловасць гіне на вачах, -- абсурд. Мы губім і тых, і другіх, а значыць, перастануць ісці грошы ў мясцовы бюджэт, не будзе чым плаціць зарплату настаўнікам, медыкам, працаўнікам культуры. Ці ж гэта палітыка?

*-- За што тады выступае ваша партыя?*

-- Мы выступаем за моцную дзяржаву, якая будзе інтэгравацца як з Усходам, так і з Захадам. Сёння роля дзяржавы мяняецца, і зараз яна павінна ўзяць на сябе функцыю прымірэння сацыяльна моцных і сацыяльна слабых слаёў насельніцтва. Мы выступаем за кансалідацыю ўсіх слаёў грамадства, каб, аб'яднаўшы намаганні, разам шукаць выйсце з крызісу. Барацьба ідэй можа ісці за сталом, але яна не павінна вылівацца на вуліцы. Калі ў любой з існуючых у грамадстве палітычных сіл ёсць што прапанаваць для аблягчэння жыцця народа, давайце шукаць выйсце разам.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



**Капітан першага рангу Уладзімір Макар жыве ў Брэсце. Выйшаўшы ў адстаўку, некалькі гадоў выкладаў астраномію ў школе. Потым яго запрасілі ў гарадскі клуб юных маракоў абучаць сваёй прафесіі хлопчыкаў, якія мараць аб далёкіх плаваннях. А Уладзіміру Іванавічу, чыя служба прайшла на вялікай крэйсерскай падводнай лодцы, ёсць пра што расказаць хлапчукам.**

**НА ЗДЫМКУ: Уладзімір МАКАР праводзіць заняткі па суднаваджэнню з шасцікласнікам СШ N 22 горада Брэста Сашай МІКІЦЮКОМ.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

*ГІСТАРЫЧНАЯ РЭТРАСПЕКТЫВА*

# НЕНАПАДЗЕННЕ

Паводле даных НКУС БССР, з кастрычніка 1939 па ліпень 1940 года ў заходніх абласцях рэспублікі было выяўлена і ліквідавана 109 так званых падпольных паўстанцкіх арганізацый, якія аб'ядноўвалі 3 231 удзельніка.

Крывавы след пакінулі за сабой органы НКУС на тэрыторыі заходніх абласцей рэспублікі. Колькі яшчэ безыменных пахаванняў раскідана ад Брэста да Мінска. Адно з такіх пахаванняў было выяўлена ў лістападзе 1994 года ў Вілейцы, якая ў тыя далёкія гады была абласным цэнтрам. Адной з галоўных "славутасцей" горада з'яўлялася ўнутраная турма НКУС з нарматыўнай ёмістасцю 210 зняволеных (для размяшчэння "ворагаў народа" на тэрыторыі вобласці было створана 7 турмаў). Аднак згодна з актам праверкі ад 14 мая 1940 года, у вілейскай турме ўтрымлівалася 910(!) зняволеных, з якіх за НКУС значылася 854.

Калі ўлічыць, што з ліку арыштаваных, справы якіх разглядалі несудовыя органы, да вышэйшай меры пакарання ў тагачаснай БССР прыгаворвалася не менш 45 працэнтаў, то можна меркаваць, што ў Вілейцы з верасня 1939-га па чэрвень 1941 года да расстрэлу было прыгаворана не менш тысячы чалавек.

Сотні жыхароў Вілейкі і тагачаснай вобласці да гэтага часу значацца прапаўшымі без вестак у самыя першыя дні вайны -- гэта значыць да акупацыі горада. Куды яны маглі знікнуць? На іх лёс могуць праліць святло радкі з пратакола пасяджэння Бюро ЦК КП(б)Б ад 22 чэрвеня 1941 года:

"Слухалі: аб зняволеных, што ўтрымліваюцца ў турмах заходніх абласцей, прыгавораных да ВМП.

Пастанавілі: даручыць тт. Цанаве і Мацвееву перадаць дырэктыву аб выкананні прыгавораў у адносінах асуджаных да ВМП, што ўтрымліваюцца ў турмах заходніх абласцей БССР".

А які лёс спасціг афіцэраў польскай арміі?

Згодна з указаннем Берыі ад 19 лістапада 1939 года яны былі сканцэнтраваны ў Старабельскім (Варашылаўградская вобласць), Асташкаўскім (Востраў Столбны, возера Селігер) і Казельскім (Смаленская вобласць) лагерах.

Называюць розныя лічбы гэтай катэгорыі ваеннапалонных. У сярэднім гэта каля 15 тысяч чалавек. Савецкае кіраўніцтва не збіралася адпускаць іх з палону, як гэта потым зрабілі немцы. Яно зыходзіла з таго, што гэтыя 15 тысяч чалавек -- афіцэры, інтэлігенты, свяшчэннікі -- уяўляюць сабой цвет польскай нацыі, яе ваенную і інтэлектуальную эліту. Апынуўшыся на волі, яны абавязкова стануць арганізатарамі і актывістамі антыфашысцкага і антыкамуністычнага супраціўлення. Натуральна, такі варыянт Сталіна і Берыю абсалютна не задавальняў.

Першапачаткова меркавалася перадаць афіцэраў польскай арміі немцам. Апошнія нават пабудавалі на тэрыторыі генерал-губернатарства некалькі спецыяльных лагераў. Аднак у рэшце рэшт у сталінскім кіраўніцтве перамагло меркаванне, што палонных трэба знішчыць. Цяпер ужо вядома, што санкцыю на знішчэнне тысяч ні ў чым невінаватых людзей дало ў 1940 годзе Палітбюро ЦК УКП(б), а непасрэдна прыгавор быў вынесены Асобай нарадай НКУС СССР.

Пасля гэтага рашэння рушылі афіцэрскія лагеры. З Казельска першы эшалон выйшаў 3 красавіка, другі -- 6 красавіка, са Старабельска першы -- 5 красавіка 1940 года.

Следства, праведзенае ў 1990--1992 гадах следчай групай Галоўнай ваеннай пракуратуры, выявіла, што не толькі ў равах Катыні спачываюць афіцэры польскай арміі. Зрэшты, афіцэры -- паняцце занадта агульнае, якое не дае поўнага ўяўлення аб тым, хто быў прызначаны да ліквідацыі. Дзве трэці інтэрніраваных складалі афіцэры запасу: інжынеры, настаўнікі, адвакаты, урачы, выкладчыкі ВНУ, ліцэісты, студэнты, свяшчэннікі (капеланы). Генерал Уладзіслаў Андэрс пісаў: "Масква ажыццяўляла план абезгалоўлівання грамадства".

Калі ўлічыць, што ў гэты ж час з Польшчы (куды ўваходзіла і тэрыторыя Заходняй Беларусі) дэпартаваліся сем'і асуджаных на смерць, сумненняў не застаецца: знішчаўся цвет інтэлігенцыі. Прычым у Катыні пахаваны толькі тыя афіцэры, якія знаходзіліся ў Казельскім лагеры. Дзе завяршыўся крыжовы шлях іх таварышаў з лагераў у Старабельску і Асташкаве, не было вядома да нядаўняга часу. Сёння ўстаноўлены і месцы іх пакарання, і месцы пахавання -- лесапаркавая зона ў Харкаве і пасёлак Меднае ў Цвярской вобласці.

Раскопкі ў Медным канчаткова пацвердзілі: вывады камісіі Бурдэнкі -- хлусня. "Канчаткова" -- таму, што сумненні ў дакладнасці прадстаўленых ёю матэрыялаў узніклі яшчэ на Нюрнбергскім працэсе, катынская справа не была ўключана ў прыгавор. І гэта вельмі паказальна -- савецкі бок рашэнне не апратэставаў.

Як вядома, у заключэнні камісіі сцвярджалася, што "тыя, хто знаходзіўся ў трох лагерах на захад ад Смаленска", былі знішчаны ў Катыні немцамі пасля акупацыі Смаленска, у верасні--снежні 1941 года. Але Меднае, як і сам Асташкаўскі лагер, не было ні дня пад акупацыяй. Сёння дакладна вядома, што афіцэрскі корпус польскай арміі быў расстраляны органамі НКУС у трох месяцах практычна аднначасова ў красавіку--маі 1940 года.

Можа быць, раскрыць прычыны катынскай трагедыі дазволіць аналіз унутранага і міжнароднага становішча красавіка--мая 1940 года? У СССР гэта быў час другой хвалі дэпартацыі з заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх зямель, час найбольш жорсткіх выказванняў супраць польскіх палітычных партый і іх прадстаўнікоў і супраць іншай "нечысці". Але ці была ліквідацыя афіцэрскіх лагераў непасрэдна звязана з дэпартацыямі?

У красавіку 1940 года войскі гітлераўскай Германіі пачалі наступленне на Захадзе. "Дзіўная вайна" скончылася. З 9 красавіка па 20 чэрвеня 1940 года палі Данія, Нарвегія, Бельгія, Францыя. Ці хацелі органы НКУС СССР выкарыстаць падзеі ў Еўропе для прыкрыцця сваіх злачынных акцый? Ці чэкісты вызвалялі тэрыторыю будучых ваенных дзеянняў ад "контррэвалюцыйных элементаў"?

Застаецца невыяўленай прамая сувязь паміж ліквідацыяй лагераў і праблемай дэпартацыі, комплексам праблем савецка-германскіх адносін. Адказ на гэтыя і іншыя пытанні, магчыма, дасць работа польскай камісіі. Ды і візіт у Мінск у верасні 1994 года намесніка генеральнага пракурора Рэспублікі Польшча Стэфана Сняжко і наступны абмен інфармацыяй паміж праваахоўнымі органамі дзвюх краін будуць садзейнічаць хутчэйшаму вырашэнню гэтых праблем.

### ФІНАЛ

Дваццаць шостага верасня савецкія газеты апублікавалі вялікае паведамленне "Германскае камандаванне аб выніках вайны ў Польшчы". На наступны дзень у Маскву прыбыў Рыбентроп. Дваццаць восьмага, калі яшчэ дагаралі ачагі адкрытага супраціўлення фашызму ў Варшаве і на Балтыцы, быў падпісаны савецка-германскі дагавор аб дружбе і мяжы. Акрамя дагавора, з'явіўся на свет яшчэ адзін дакумент, што пашырыў бездань паміж СССР і яго будучымі саюзнікамі па барацьбе з фашызмам.

Ну а Рыбентроп, назаўсёды пакідаючы СССР, заявіў супрацоўніку ТАСС: "...Абедзве дзяржавы жадаюць, каб мір быў адноўлены і каб Англія і Францыя спынілі абсалютна бессэнсоўную і бесперспектыўную барацьбу супраць Германіі. Калі, аднак, у гэтых краінах возьмуць верх падпальшчыкі вайны, то Германія і СССР будуць ведаць, як адказаць на гэта".

Аж да чэрвеня 1941 года па Маскве хадзілі чуткі, быццам Сталін і Гітлер хутка аб'яднаюць Германію і СССР у адну дзяржаву: яны там у Берліне таксама сацыялісты, няхай і з прыстаўкай "нацыянал"...

І вось усё скончана. У школах Заходняй Беларусі аднаўляюцца заняткі. Наладжваецца праца прадпрыемстваў. Войскі ўладкоўваюцца ў казармах. Жыццё працягваецца -- для тых, хто выжыў. Вясёлай частушкай ставіць кропку на падзеях Лебедзеў-Кумач:

**Панской Польши нету больше,**
**Хитрой ведьмы нет в живых,**
**Не захватит в лапы Польша**
**Наших братьев трудовых!**

...У гісторыі няма ніякіх варыянтаў, ніякіх "калі б" -- гэтая думка раз-пораз выказваецца на старонках газет і часопісаў. Гэта звычайная няпраўда. Варыянты ў гісторыі ёсць!

Так, мінулае нельга перарабіць, перайграць. Што было, тое было, гэта бясспрэчна. Але мінулае было некалі будучыняй, і людзі, што ўступалі ў гэтую будучыню, яшчэ не ведалі тады, чым яна абернецца, якой стане. Так і мы сёння гадаем аб блізкіх і далёкіх перспектывах. Немагчыма зразумець думкі і паводзіны людзей мінулага, не зразумеўшы, якія варыянты будучыні (стаўшай цяпер мінулым) яны маглі прадбачыць.

Важна ўлічваць і тыя варыянты развіцця падзей, якія нашы папярэднікі, быць можа, прагледзелі. І не трэба блытаць мінулае, якое змяніць немагчыма, з існуючымі ўяўленнямі аб мінулым.

Вернемся да падзей 1939 года. Менавіта тады "любоў" паміж заўзятым антыфашыстам Сталіным і заклятым антыкамуністам Гітлерам прывяла людзей усяго свету ў стан шоку. На самай жа справе нічога дзіўнага ў гэтай з'яве не было. Крайнасці заўсёды сыходзяцца, да таго ж было нямала і падабенства. Канцлагеры і ГУЛАГ, гестапа і НКУС, рэпрэсіі супраць іншадумцаў і нават супраць прыхільнікаў, імкненне да сусветнага панавання, мілітарызацыя, грэбаванне міжнародным правам -- вось што радніла двух тыранаў.

У выніку адбылося тое, што і павінна было адбыцца. Гітлер і Сталін не змаглі падзяліць паміж сабой здабычу. Кожны хацеў урваць больш.

18 снежня 1940 года Гітлер падпісаў дырэктыву N 21, больш вядомую як план "Барбароса". Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны заставалася паўгода...

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

**Заканчэнне. Пачатак у №34, 35.**

## З II МІЖНАРОДНАГА КАНГРЭСА БЕЛАРУСІСТАЎ

# БЕЛАРУСЬ НА ГІСТАРЫЧНЫХ КАРТАХ

Гістарычныя карты ўтрымліваюць даволі каштоўную інфармацыю аб этнічнай геаграфіі асобных краін і кантынентаў. Яны адлюстроўваюць не толькі ўзровень ведаў (гэта ў даным выпадку не так істотна), але і змены ў культурным ландшафце, у тапаніміі, у рассяленні цэлых народаў, у гістарычнай этнаніміцы. Параўнальны аналіз карт і іх супастаўленне з іншымі крыніцамі даюць магчымасць прасачыць эвалюцыю поглядаў на краёвыя назвы "Белая Русь", "Літва", "Чорная Русь", "Палессе", як і на этнонімы "беларусы", "русіны", "літвіны", "літоўцы", "палешукі", "падляшане" і інш. І справа тут не толькі ў саміх поглядах як суб'ектыўных катэгорыях, але і ў гістарычных рэаліях, аб'ектыўных шляхах эвалюцыі тых ці іншых паняццяў, іх блуканні ў прасторы і часе, у тых парадоксах, якія адбываюцца з многімі гістарычнымі паняццямі. Не з'яўляюцца выключэннем у гэтым сэнсе і ўжо звыклыя для нас назвы -- "Беларусь", "Літва", "Русь", "беларусы", "літоўцы" і інш.

На адной з самых старажытных -- карце Сярэдняй Еўропы Міколы Кузанскага, выдадзенай каля 1450 года, тэрыторыя Беларусі пазначана пад назвай "Літва" (Lithuania). На карце мы знаходзім і тагачасныя "літоўскія" гарады -- Полацк, Барысаў, Крэва. У сваю чаргу, тэрыторыя Літвы (Летувы) фігуруе тут пад найменнем "Самагіція" (Samogitia), інакш -- Жамойція. На гэтай карце мы бачым таксама Польшчу (Polonie), Мазовію, Прусію, Падолію і Русь (Russia). Апошняя размешчана на тэрыторыі сучаснай Украіны, пераважна яе заходняй часткі, яна атаясамлівалася з Галіцка-Валынскай зямлёй. Нарэшце, на гэтай жа карце мы ўпершыню знаходзім і "Белую Русь", якая атаясамліваецца з Маскоўскай Руссю (Russiaalba sive Moskovia, -- Белая Русь або Масковія) і размяшчаецца на ўсход ад старажытнага Дняпра (Барысфена). Такім чынам, назва "Белая Русь", вядомая паводле летапісных крыніц з XII стагоддзя ў адносінах да Паўночна-Усходняй Русі, трывала захоўвалася за гэтым рэгёнам на працягу ўсяго сярэднявечча аж да XVII стагоддзя.

М.Кузанскі, як высокаадукаваны чалавек свайго часу, вядомы сваімі філасофскімі і астранамічнымі працамі, што папярэднічалі геліяцэнтрычнай сістэме М.Каперніка, не мог не ўлічваць вопыту сваіх папярэднікаў, рэальна адлюстроўваў геаграфічныя веды і тагачасныя ўяўленні адукаванай заходнееўрапейскай грамадскасці аб краінах і народах Еўропы. Яго карта з'явілася асновай для цэлай серыі карт, што выдаваліся ў далейшым яго паслядоўнікамі -- Маркам Бенявіцкім, Бернардам Вапоўскім, Себасцянам Мюнстэрам.

На карце С.Мюнстэра, выдадзенай праз 90 гадоў (1540), больш дэталёва пададзены тапанімія і культурны ландшафт Сярэдняй Еўропы; Белая Русь па-ранейшаму размяшчаецца тут на ўсход ад Дняпра і займае тое ж месца, што і на карце М.Кузанскага. Яшчэ больш дэталёвыя і блізкія да сучасных картаграфічных праекцый карты Маціса Струбіча (1589) і Мікалая Радзівіла-Сіроткі (Т.Макоўскага). Апошняя была падрыхтавана ў Нясвіжы, адным з буйнейшых культурных асяродкаў у Еўропе, і выдадзена ў 1613 годзе ў Амстэрдаме. Тут мы знаходзім дэталёвую геаграфію прыродных аб'ектаў, розных тыпаў пасяленняў і характару рассялення; тут жа пададзены і падзел краіны на асобныя землі і гісторыка-этнаграфічныя вобласці (Палессе, Валынь, Падляшша, Жамойція, або Самагіція). Аднак на вялізных абшарах Вялікага Княства Літоўскага нідзе не згадваецца назва "Белая Русь". І гэта не выпадкова. Як сведчаць пісьмовыя крыніцы ("Хроніка Еўрапейскай Сарматыі", 1578 год), краёвы тапонім "Белая Русь" эпізадычна пачынае сустракацца ў адносінах да верхняга Падзвіння і Падняпроўя толькі ў канцы XVI-пачатку XVII стагоддзяў, аднак у гэты час ён яшчэ не паспеў замацавацца за гэтым рэгіёнам.

Карта М.Хр.Радзівіла паслужыла ўзорам для выдання шэрагу карт Літвы, якія ўвайшлі ў спецыяльна выдадзеныя атласы Я.Сандарта, М. і В.Сансонаў, І.Блау і інш. Знаёмячыся з імі, міжвольна захапляешся мастацкімі якасцямі і афармленнем карт, паліграфічнай культурай выдання грунтоўных і шырокафарматных атласаў, якія па свайму ўзроўню ніколькі не ўступалі, хутчэй перасягалі сучасныя выданні падобнага тыпу.

Назва "Белая Русь" у адносінах да сучаснай Беларусі, дакладней, яе паўночна-ўсходняй часткі, з'яўляецца на картах толькі ў сярэдзіне--другой палове XVII стагоддзя. Прычым найменні "Літва" і "Белая Русь" нярэдка перакрыжоўваюцца і часткова сумяшчаюцца паміж сабой.

У гэтай сувязі заслугоўваюць увагі карты Гільёма дэ Баплана, французскага картографа, што шмат гадоў працаваў на каралеўскай службе ў Рэчы Паспалітай. На яго карце, выдадзенай у 1687 годзе Я.Сандартам (яе асновай паслужыла карта Баплана 1651 года), Белая Русь ...алізавана ў раёне Падзвіння і займ... ...араўнаўча невялікую частку ў агульным "літоўскім" масіве. Звяртае ўвагу, што сама назва "Белая Русь" вынесена ў загаловак карты: "Вялікае княства: Літва і Белая Русь" (Magnus Ducat: Lithuania Ë Russia Alba). Аднак на самой карц... ...а паказана неяк невыразна і малапр... ...на, як бы спешна накладзена ў апош... ...омант нядбайным шрыфтам паверх ранейшай тапаніміі. Тым не менш з гэтага часу "Белая Русь" усё часцей і часцей з'яўляецца на геаграфічных картах і як этнаграфічная назва паступова пашыраецца на раён Падняпроўя, у той час як назва "Літва" адцясняецца ўсё далей на захад, за Бярэзіну, у раёны Павілейшчыны і Панямоння.

На карце Польшчы, Літвы і Прусіі, выдадзенай Тэадорам Кітчынам (Лондан, 1740), тэрыторыя Беларусі пазначана пад назвай "Русь Літоўская" (Lithuanian Russia), якая, у сваю чаргу, падзяляецца на тры гісторыка-этнаграфічныя вобласці -- Белую Русь (White Russia), Чорную Русь (Black Russia) і Палессе (Polesia). Белая Русь тут займае паўночна-ўсходнюю частку сучаснай Беларусі (на поўдні -- да Гомеля), Чорная Русь -- Панямонне і Случчыну, Палессе -- басейн Прыпяці і часткова Заходняга Буга ад Брэста на захадзе да Мазыра на ўсходзе.

Нарэшце, звернем увагу яшчэ на адну карту, выдадзеную Тобіашам Маерам (Нюрнберг, 1750), дзе назва "Белая Русь" (Russia Alba) упершыню ўжыта амаль для ўсёй сучаснай тэрыторыі рэспублікі ад Заходняга Буга на паўднёвым захадзе да Падзвіння на паўночным усходзе. Размешчанае на поўдні Палессе паказана тут больш дробным шрыфтам як састаўная частка, этнаграфічная вобласць Белай Русі. Аднак замацаванне за ўсёй этнічнай тэрыторыяй сучаснай назвы адбылося пазней -- у канцы XIX стагоддзя.

Вывучэнне гістарычных карт і іх супастаўленне з адпаведнымі пісьмовымі і этнаграфічнымі крыніцамі дазваляе нам больш крытычна паставіцца да розных версій аб паходжанні тэрмінаў "Белая Русь" і "Літва". Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што іх асэнсаванне не было аднаназначным на розных гістарычных этапах і ў розных народаў і вар'іравалася ў прасторы і часе, таму адна версія не абавязкова павінна выключаць усе астатнія.

Тая акалічнасць, што краёвы тапонім "Белая Русь" устойліва захоўваўся на працягу XII--XVI стагоддзяў за Паўночна-Усходняй Руссю, нягледзячы на 250-гадовы перыяд панавання тут мангола-татарскага іга, ставіць пад сумненне даволі распаўсюджаную версію пра яе гістарычную семантыку як Вольнай, ці Свабоднай Русі. Найбольш аргументаванай і забяспечанай крыніцазнаўчым падмуркам уяўляецца версія, што тлумачыць паходжанне "Белай Русі" як "Русі Заходняй".

Вядома, што ў старажытнай усходняй традыцыі існавала касмаганічнае асэнсаванне асноўнай гамы колераў, якія атаясамліваліся з старанамі свету: белы -- з захадам, блакітны -- з усходам, чорны -- з поўначчу, чырвоны -- з поўднем. Таму існаванне на геаграфічнай карце ў сярэднявеччы розных тапонімаў і этнапалітычных утварэнняў з каляровымі прыкметамі (Белая Арда, Сіняя Арда, Белыя Харваты і інш.) з'яўляецца даволі пашыраным. Не выключэнне з гэтага шэрагу і назвы "Белая Русь", "Чорная Русь" і "Чырвоная Русь". З XVI--XVII стагоддзяў гэтае асэнсаванне слова набывае свой рэальны змест, калі "Белая Русь" пасля некаторых блуканняў па прасторах славянскага свету перамяшчаецца на захад і паступова замацоўваецца ў верхнім Падзвінні і Падняпроўі.

Замацаванню ў гэтым рэгёне назвы садзейнічалі і этнаграфічныя прыкметы, якія цалкам асацыіраваліся ў свядомасці іншаземцаў з "Белай Руссю". Амаль кожны з іх, хто ўпершыню наведваў Беларусь (яе ўсходнюю частку), мімаволі звяртаў увагу на пануючы тут спрэс белы колер адзення -- ад світак і кажухоў да мужчынскіх нагавіц і шапак-магерак. Такім чынам, геаграфічны змест назвы набываў аднachасова і этнаграфічны сэнс.

Італьянец Аляксандр Гваньіні, які шмат гадоў пражываў у Віцебску, у сваёй кнізе "Хроніка Еўрапейскай Сарматыі" (1578) пісаў: "А ёсць Русь траякая: адна Белая, другая -- Чорная, трэцяя -- Чырвоная. Белая каля Кіева, Мазыра, Мсціслава, Віцебска, Оршы, Полацка, Смаленска і Северскай зямлі, якая здаўна належыць Вялікаму Княству Літоўскаму. Чорная -- у Маскоўскай зямлі каля Белага возера і далей усюды да Азіі. Чырвоная каля гор, якія называюцца Бескідамі (гаворка ідзе пра Карпаты). Такое геаграфічнае становішча асобных частак Русі якраз адлавядае той самай еўраазіяцкай традыцыі, калі краіна, ці зямля, што размяшчалася на захадзе, называлася Белай, на поўначы -- Чорнай, на по... -- Чырвонай. Яно адлюстравана і на ...ных картах Г.Баплана, В.Сансона (1655). У далейшым краёвая назва "Чорная Русь" была штучна перанесена на тэрыторыю нашай краіны (як антытэза Белай Русі) і ўжывалася ў дачыненні да яе паўночна-заходняй часткі па... ...льна з традыцыйным найменнем "...". Заслугоўвае ўвагі тая акалічнасць, што назва "Белая Русь" пасля вандроўкі яе з усходу замацоўвалася на тэрыторыі нашай краіны якраз у той перыяд, калі яна не была ўжо "белай" у ранейшым сэнсе, інакш кажучы, не была вольнай, незалежнай, асабліва ў той час, калі тут "гаспадарылі" карныя атрады графа Мураўёва: па-другое, яна не была праваслаўнай, а была уніяцкай, і толькі пасля забароны уніяцтва ўрадавым актам (1839 год) праваслаўная царква рашуча замацавала свае пазіцыі ва ўсходняй і паўднёвай частках Беларусі. Асноўным матывам "трыумфальнага шэсця" Белай Русі з усходу на захад і яе замацавання на сучаснай тэрыторыі служыла этнапалітычная і этнакультурная сітуацыя, што склалася ў Беларусі ў другой палове XIX -- пачатку XX стагоддзяў.

У выніку шырокіх комплексных даследаванняў у другой палове XIX стагоддзя выявілася, што на геаграфічнай прасторы ад Беластока на захадзе да Ржэва і Бранска на ўсходзе, нягледзячы на рэгіянальныя этнакультурныя асаблівасці, жыве адзіны і своеасаблівы славянскі народ. Адны называлі яго літвінамі, другія -- беларусамі, русінамі, не гаворачы пра шэраг іншых краёвых назваў-этнонімаў -- палешукі, падляшане і інш. У той жа час існаваў і падзел нашай краіны на Літву і Беларусь, як гэта мы сустракаем у шматлікай літаратуры другой паловы XIX стагоддзя. У прыватнасці, аўтары добра вядомай "Жывапіснай Расіі" (Т.3. 1882 год) падзялялі заходнія губерні на беларускія і літоўскія; да першых яны адносілі Смаленскую, Магілёўскую, Віцебскую (без ліфляндскіх паветаў) і Мінскую, да другой -- Гродзенскую, Віленскую і Ковенскую губерні. Іншыя аўтары абмяжоўвалі тэрыторыю Беларусі Падзвіннем і Падняпроўем (на ўсход да Бярэзіны), як гэта мы бачым у гісторыка-краязнаўчых працах В.В.Турчыновіча і М.В.Бэз-Карніловіча (1857, 1855 гады).

Такое "супрацьстаянне" Літвы і Беларусі на адзінай этнічнай тэрыторыі было свайго роду кампрамісам двух падыходаў: адзін з іх адлюстроўваў устойлівую традыцыю наймення гэтага краю "Літвой", а мясцовага насельніцтва "літвінамі" (традыцыя, якая трымалася больш за 500 год), другі -- больш позні погляд, які падтрымліваўся культурным уплывам і палітычнай экспансіяй з усходу.

Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя карэнныя жыхары беларускага Панямоння, усведамляючы сябе як адзіную этнічную супольнасць, тым не менш заміналіся назваць сваю нацыянальнасць. "Сяляне нашай губерні, -- паведамлялі мясцовыя карэспандэнты, -- не называюць сябе ні рускімі, ні беларусамі. Некаторыя лічаць сябе літвінамі. Палякаў (у большасці асіміляваных беларусаў. -- **В.Ц.**) яны не любяць. Рускіх называюць казакамі. Наогул аб сабе і сваёй краіне яны выказваюцца так: "Мы тутэйшыя, наша страна ні руска, ні польска, але забраны край".

Адносіны да саманазвы ў канкрэтным выпадку выяўляюць, з аднаго боку, устойлівую гістарычную традыцыю ў адносінах да самой старажытнай назвы гэтага краю -- "Літва", з другога -- нацыянальную беларускую, дакладней, "літвінскую" самасвядомасць, калі жыхары Панямоння, нягледзячы на шматвяковую настойлівую палітыку паланізацыі і русіфікацыі, тым не меней, не адносілі сябе ні да палякаў, ні да рускіх, а лічылі сябе самастойнай супольнасцю -- "літвінамі" ці "тутэйшымі".

Як паказваюць вынікі этнаграфічнай экспедыцыі 1980 года, на поўдні Панямоння па суседству з Палессем да нядаўняга часу існавала выразная мяжа мясцовых этнонімаў (этніконаў), што адчляняла вобласці старажытнай Літвы і Палесся. Мясцовыя жыхары, што пражывалі на поўнач ад мяжы, якая праходзіла па вярхоўях ракі Ясельда на Бярозу, Дабрамысль, Крывошын, называлі сваіх паўднёвых суседзяў палешукамі ці багнавікамі, а тыя іх, у сваю чаргу, літвінамі ці ліцьвінамі.

Якраз па гэтых акалічнасцях вынікі статыстычнага ўліку насельніцтва, праведзенага ў сярэдзіне XIX стагоддзя па матэрыялах спісаў мясцовых прыходаў, утрымліваюць з пункту гледжання сучаснага разумення адпаведных этнонімаў шмат супярэчнасцей і парадоксаў. Так, паводле гэтых спісаў, у Гродзенскай губерні значылася болей 200 тысяч "літоўцаў" -- у асноўным за кошт беларускамоўных, мясцовых "літвінаў" (заўважым, што 130 тысяч з іх былі праваслаўнымі), 193 тысячы палякаў (у большасці акаталічаных беларусаў), 132 тысячы "рускіх" (за кошт мясцовых "русінаў", "руськіх") і толькі 25 тысяч беларусаў, прычым амаль палова з іх у Беластоцкім павеце. У прыходскіх спісах фігуруюць таксама ятвягі (30 927 чалавек) і бужане (5 463 чалавекі). Аналагічная сітуацыя назіралася таксама ў Віленскай губерні, дзе колькасць літоўцаў (летувісаў) і палякаў аказалася завышанай за кошт беларускіх літвінаў і католікаў. Тут жа ўпамінаюцца і крывічы (23 016 чалавек), што пражывалі ў Лідскім і Ашмянскім паветах, у прыватнасці ў басейне Дзітвы і Бярэзіны, правых прытокаў Нёмана. Нягледзячы на ўсе хібы і недакладнасці, што ў асноўным былі выкліканы адсутнасцю адзіных падыходаў і крытэрыяў уліку "племяннога складу" насельніцтва, вынікі гэтага ўліку не могуць не адлюстроўваць пэўныя ўяўленні сучаснікаў аб беларусах (як і летувісах, паляках), існаванне сярэдневяковых форм краёвага (земляцкага) самавызначэння, этнічнай самаідэнтыфікацыі.

Першы ўсерасійскі перапіс насельніцтва (1897 год) у якасці асноўнай этнавызначальнай прыкметы прыняў родную мову, што дало магчымасць у значнай ступені праясніць рэальную этнічную сітуацыю ў Расійскай імперыі, і ў прыватнасці ў яе "Паўночна-Заходнім краі". Паводле перапісу, у Віленскай губерні паказалі сваёй роднай мовай беларускую -- 891 903 чалавекі (56,05 працэнта ўсяго насельніцтва), літоўскую (летувіскую) -- 279 720 (17,58 працэнта), яўрэйскую -- 202 374 (12,72 працэнта), польскую -- 130 054 (8,17 працэнта), расійскую ("вялікарускую") -- 78 623 (4,94 працэнта), нямецкую -- 3 873 (0,24 працэнта), турэцка-татарскую -- 2 148 (0,14 працэнта), украінскую ("маларускую") -- 913 (0,06 працэнта). Звяртае на сябе ўвагу, што ў матэрыялах перапісу побач з літоўцамі фігуруе жмудзь, што пражывала ў асноўным у Ковенскай губерні, у Віленскай губерні паказалі ў якасці роднай мовы жмудзкую ўсяго 157 чалавек.

Да канца XIX стагоддзя краёвая назва "Беларусь" стала дамінуючай на ўсёй этнічнай тэрыторыі ад Беластока да Бранска, а ранейшая назва "Літва" адцяснялася ўсё далей на паўночны захад і перамяшчалася на тэрыторыю летувіскіх правінцый Аўкштайціі і Жамойціі. Гэты працэс ішоў супярэчліва і адлюстроўваў, з аднаго боку, вынікі настойлівай і паслядоўнай палітыкі "заходнерусізму", з другога -- узмацненне культурна-эканамічнага адзінства, ажыўленне працэсу кансалідацыі беларускага этнасу, рост нацыянальнай самасвядомасці.

**Віктар ЦІТОЎ.**

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"




-- Што зробіш...

Убачыў, як Сашка падышоў да Алінчукоў і адразу разам зь імі падаўся ў пакой, зь якога нядаўна выйшаў.

-- Панна ведае Алінчукоў? -- запытаўся я ў перамытніцы.

-- Ведаю.

-- Хлопцы іх не хваляць!

-- Дрэнь! -- адказала дзяўчына.

Абняў яе мацней. Не пратэставала. Падумаў, што трэба сказаць ёй нейкі камплімент, і вымавіў:

-- У вас вельмі прыгожыя вочы.

-- Ну? -- прамовіла з запытаньнем і ўсьміхнулася.

-- Праўду кажу! -- шчыра адказаў ёй.

Яна засьмяялася і рухам галавы адкінула назад валасы. Пасьля прамовіла:

-- Я ўсё маю прыгожае... не толькі вочы!

-- Ого!.. Дык панна Бэлка такая... шчырая... І ўпэўненая ў сабе?..

-- Але... Такая...

-- Люблю сьмелых. Калі б ніхто ня бачыў, пацалаваў бы панну за гэта!

-- А потым бы пан хваліўся па ўсім мястэчку!

-- Нічога такога! Даю слова...

-- Ну, ну, паглядзім! -- загадкава адказала яна.

Адчуў, што падабаецца мне і што доўга танцаваў бы зь ёй, аднак яна сказала:

-- Досыць калясіць! Мне ногі баляць. Учора з дарогі вярнулася, а раніцай зноў ісьці!..

-- Далёка ходзіце?

-- Пад Пятроўшчыну.

Гэта было вельмі далёка ад мястэчка -- тры вярсты ад Мінска.

Адвёў Бэлку да сяброўкі, якая ўступіла ёй сваё месца на лаўцы. Забава працягвалася далей. У хаце стала горача. Твары прысутных блішчэлі ад поту. Заўважыў, што некаторыя хлопцы на падлітку. Спачатку не зразумеў, калі яны здолелі напіцца. А потым убачыў, што тыя выходзяць удвух, утрох на двор і ружовенькімі вяртаюцца назад. Я позіркам шукаў Шчура, але нідзе ня мог яго знайсьці, пакуль той сам не падышоў да мяне і, міргаючы вокам, не вымавіў:

-- Хадзі на хвіліну.

Пакрочыў за ім у наступны пакой.

Апынуліся ў хмарах тытунёвага дыму. Спачатку я нават паветра ня мог ухапіць у грудзі, так сьпёрта было ў малым пакоіку, здавалася, да края напоўненага людзьмі. Калі ж трошкі пачаў арыентавацца, дык убачыў доўгі стол, а навокал яго перамытнікаў, якія сядзелі або стаялі. Некаторых ведаў асабіста, іншых -- зрокава, а некалькіх бачыў упершыню.

Хлопцы былі ў разгуле. На галоўным месцы сядзеў Камета са шклянкай у адной руцэ і з бутэлькай у другой і выкрыкваў:

-- Кульгавае наша шчасьце, хлопцы, дык пападпрэм яго бутэлькамі!

-- Мудра! -- адказаў Лорд.

-- Хто не курыць і не п'е, той гніе, а не жыве!

-- Мудра! -- рыкаў Лорд і дадаваў: -- А ў падмацаваньне гэтага -- яшчэ па адной.

Шчур пацягнуў мяне да стала. Пасадзіў побач на вузкай лаўцы. Лорд паставіў перада мной поўную шклянку гарэлкі і прамовіў:

-- Даганяй!

На другім канцы стала гулялі ў карты. Там знаходзіліся браты Алінчукі, Сашка, Жывіца, Ванька Бальшавік і яшчэ некалькі незнаёмых людзей. Гулялі ў "ачко". На стале ляжалі пачкі банкнотаў і купкі залатых манет.

Сашка банкаваў. Хоць у яго на шчоках зьявілася чырвань, гуляў спакойна, старанна тасуючы і раздаючы карты. Перад ім ляжаў значны стос грошай. У нейкі момант Болек Камета зьвярнуўся да яго:

-- Аддасі карту за 50?

Сашка кіўнуў яму галавой:

-- І за 500 аддам.

-- Пайшло 50.

Камета ўзяў тры карты і прайграў. Выплаціў.

-- Кажу і сьцьвярджаю, хлопцы, што ні ў картах, ні ў бабах не маю посьпеху!.. Толькі ў гарэлцы. Дзе круцяцца бутэлечкі і звоняць ды міргаюць мне шкляначкі!.. Ну, яшчэ па адной!

-- Мудра!

Лорд пачаў насьвістваць. Сьвістаў ён выдатна, але рэдка паказваў гэта мастацтва, таму варта было яго паслухаць. Перарваў сьвіст і запеў прапітым, сіпатым, як бы застуджаным, голасам:

**Прыйшоў туды**
**пад вечар ўсё ж,**
**Прыбраны зух,**
**ў кішэні нож...**

Нейкі, зусім малады, з дзіцячым тварам незнаёмы мне перамытнік, які сьпяваў звонкім альтам, пачаў дапамагаць:

**Мяне сябры бяруць за пас**
**І садзяць ураз за стол:**
**"Ты, Болек, хлопец клявы!**
**Напіся хоць бы кавы!.."**

Болек Камета пры слове "кавы" зморшчыўся, нібыта ад абразы, і зрабіў выгляд, што яго ванітуе. Некаторыя рассьмяяліся, а Болек Лорд сьпяваў далей:

**"... Бо смага выйшла**
**аж да края!**
**Усё схлябала зграя тая..."**

-- Хлусьня! -- крыкнуў Болек Камета. -- Кажу вам і сь[illegible]джаю, хлопцы, пакуль [illegible]ь граніца, нам хутчэй вады забракне, чым гарэлкі!

-- Мудра! -- адказаў хтосьці за Лорда, які сьпяваў далей:

**Я, як анёлак, там гуляў,**
**Хоць дзюрак**
**сем у чэрап ў[illegible]!..**

-- Фэлька адну мае, але клёвую! -- кінуў Ванька Бальшавік, выскаляючы зубы на другім канцы стала.

-- Ты Фэлькай морду не абцірай! -- блі̇снуў у яго бок вачыма Сашка.

-- Я нічога... Я проста так... гуляю...

-- Ну дык гуляй... І глядзі ў мяне!..

Усе былі ўзбуджаныя алкаголем. Разносіліся выбухі шалёнага сьмеху. У паветры лyталі салёныя жарты. Курылі без перапынку. Падлога была засьмечаная акуркамі і каробкамі ад папярос. На стале блішчалі расплюханыя лужы гарэлкі і піва.

Мамант, Камета, Шчур і Лорд пілі бесперастанку.

Фэлік Маруда, сканцэнтраваўшыся, павольна і паважна еў вялізны кавалак вантрабянкі. Шчур, піхнуўшы мяне локцем у бок, вымавіў:

-- Бачыш, на аргане грае?

Болек Камета пачуў гэта і зьвярнуўся да Маруды:

-- Фэлік, любы! Ты зараз выглядаеш, як леў на пустыні, які рыкае і паядае.

-- А дзе ты бачыў ільва? -- запытаўся ў яго Шчур.

-- На малюнку.

-- На якім малюнку?

-- Езус на льву ў Ерусалім уязджае.

-- Дык гэта ж асёл! -- зьдзівіўся Шчур.

-- А я думаў, што леў! -- адказаў Камета.

Маруда адарваўся ад яды. Доўга перажоўваў. Праглынуў. А пасьля зь вельмі паважным выглядам выказаўся:

-- А ты выглядаеш, як трынаццаты апостал!

Вымавіўшы гэта, ён зноў узяўся за яду. Усе выбухнулі сьмехам. Выказваньне Маруды, што Камета выглядае, як трынаццаты апостал, здалося нам, невядома чаму, вельмі сьмешным.

-- Адрэзаў яму.

-- Адбрахаўся.

-- Адгрызься.

-- Вось дык пад'ехаў!

-- Гэта стары дасьціпнік! Як не кажа, дык не кажа, а як скажа...

-- Гэта як чорт у балоце нарыгае.

Разносіліся галасы перамытнікаў.

Болек Камета выпіў паўшклянкі гарэлкі. Тыльным бокам далоні абцёр вусны. Папраўіўшы вусы, вымавіў:

-- Гэта гарадскі хлапец, адпаліраваны...

Шчур падхапіў:

-- У млын са збожжам езьдзіў!

-- Карову да быка вадзіў! -- дадаў Лорд.

Камета працягваў далей:

-- Добра абабіты!

-- Катлетай па мордзе! -- дадаў Шчур.

-- І налятаны, -- казаў Камета.

-- Каля гумна за сьвіньнямі, -- дадаў Лорд.

Маруда скончыў яду, са смакам аблізаў пальцы і флегматычна прамовіў:

-- Я маю вас там, дзе курыца яйка трымае!

Зноў шалёны выбух сьмеху. У гэты момант у пакой увайшла Фэля. Спынілася ў дзьвярах і хвіліну прыплюшчвала вочы, стараючыся нешта ўбачыць скрозь хмары тытунёвага дыму. Сьмех заціх. Перарваліся размовы. Усе ськіравалі свае вочы да ўвахода.

Фэля была апранута ў чорную шаўковую сукенку. На нагах -- чорныя шаўковыя панчохі і лакеркі, на шыі -- залаты ланцужок ад гадзіньніка, на руках зьзяла шмат бранзалетаў і пярсьцёнкаў. Павольна рушыла далей. Ступала велічна, з гонарам падняўшы ўгару незвычайна прыгожую галоўку. Позіркі хлопцаў абляпілі яе, ішлі за ёй, сачылі за кожным яе рухам, жэстам. Ванька бальшавік аж рот разявіў ад захапленьня. Гульня і п'янка перапыніліся. А яна, задаволеная эфектам, які выклікала ў прысутных, лёгкімі крокамі накіравалася да брата.

Сашка зморшчыў лоб:

-- Ну... Чаго сюды?

-- Можа, штосьці трэба?

-- Нічога не трэба... Ідзі адсюль!

Фэля надзьмула вусны і страсянула галавой. Агледзела ўсіх. Я сустрэў яе погляд, і аж холадна зрабілася... у грудзях нечакана забракла паветра.

Раптоўна прагучаў голас Маруды:

-- Агуркоў бы...

Шчур пырснуў сьмехам. Сашка зарагатаў. І крыкнуў сястры, якая перамервала пакой:

-- Фэлька, пачакай! Прынясі агуркоў... Поўнае вядро для сябра Маруды. Мігам!

-- Добра, -- адказала Фэля.

Пасьля, наблізіўшыся да дзьвярэй, спынілася і зноў зьвярнулася да брата:

-- Дык хадзі, дапаможаш!

Сашка падняўся, паклаў карты на стол. Хвіліну вагаўся, пасьля падышоў да мяне:

-- Уладак, схадзі дапамажы Фэлі прынесьці агуркі!

Спяшаючыся, я падняўся і накіраваўся за дзяўчынай, якая чакала ля дзьвярэй.

## 10

Разам з Фэляй апынуліся ў вялікіх сенцах.

-- Ёсьць ліхтарык? -- запыталася дзяўчына.

-- Маю.

Размаўлялі стоячы ў сенцах. Праз хвіліну заўважыў, што Фэля выпіўшы. Крочыла ня вельмі ўпэўнена, пару разоў яе занесла ўбок. Намацаўшы дзьверы кладоўкі, адчыніла іх. Пасьвяціў у сярэдзіну ліхтарыкам. Пачуўся здушаны жаночы крык, і я ўбачыў хлапца і дзяўчыну, якія ляжалі на падлозе. Ён усхапіўся і стаў на калені, а яна, каб не пазналі, закрыла далонямі твар.

Фэля тузанула мяне за рукаў і пацягнула ў сенцы:

-- Загасі ліхтарык!.. Хадзі!..

Выйшлі на панадворак. Каля сьцяны хаты прыціскалася іншая пара. Пры нашым зьяўленні яны адскочылі адзін ад другога і хутка зьніклі ў цемры.

Даляцеў ціхі сьмех Фэлі. Вельмі ціхі, каб я не пачуў. Узьнікла жаданьне пасьвяціць ліхтарыкам ёй у твар, аднак не асьмеліўся зрабіць гэтага. Сьмех дзіўна падзейнічаў на мяне... Стала горача, а калені нібы самлелі. Тады ж адчуў дотык рукі і пачуў ненатуральны нервовы шэпт[illegible]

-- Ідзі туд[illegible] у камору... Вазьмі вядро [illegible]тар... Ідзі...

-- Яны там... -- перарваў яе.

Пырскнула сьмехам.

-- Дурны ты! Ідзі!..

Камора была ўжо пустой. Я знайшоў вялікае ацынкаванае вядро і ліх[illegible] Узяўшы ўсё, выйшаў на д[illegible]

-- Ужо?

-- Ужо.

-- Дык хадзем!

Крочыла шпарка. Апынуліся ў агародчыку за хатай. Убачыў абсыпаную зямлёй пахіленую стрэшку скляпка. Фэля пакруціла калодку і, нізка нахіліўшыся, ступіла ў сярэдзіну. Падаўся за ёй. Сутыкнуліся ў цемры. Мімаволі, не разумеючы, што раблю, прыцягнуў яе да сябе і моцна абняў. Маўчала. Праз хвілю прамовіла:

-- Ну, адпусьці!

Адразу адпусьціў. Яна запаліла ліхтар і адамкнула малыя дзьверцы ў склеп. Павярнуўшыся да мяне, з бледным тварам і нейкім дзіўным голасам, якога я ніколі раней у яе ня чуў, прамовіла:

-- Залазь туды!.. Трымай ліхтар!..

Па стромкай прымітыўнай драбіне я зьлез уніз. Паставіў на зямлю ліхтар.

-- Лаві, -- пракрычала зьверху.

Кінула мне вядро і пачала злазіць. У склепе пахла цьвільлю. Сьвятло ліхтара гублялася па цёмных закутках.

Я глядзеў угару на дзяўчыну, якая памалу сыходзіла ўніз па драбіне. Бачыў яе смуглыя ногі. Адной рукой Фэля падабрала сукенку... больш, чым было патрэбна для свабоды рухаў.

Зь вядром агуркоў у руцэ вярнуўся да хлопцаў. Пакой поўніўся. Гулянка ішла як найлепш.

Агуркі разам зь вядром паставіў насупраць Фэлькі Маруды.

-- На! Засаджвай!

Маруда, ня бавячы часу, засунуў руку ў вядро.

-- Гэтаму і з бочкай пастаў, не адмовіцца! -- заўважыў Лорд.

Шукаючы Шчура, я агледзеў пакой. Убачыў яго на другім канцы стала непадалёку ад Алінчукоў. Падміргнуў мне вокам. Я падышоў туды. Альфрэд банкаваў. Ён выцягнуў з кішэні дзьве калоды новых карт. Разарваў апаскі. Стасаваў карты і паклаў 200 рублёў.

-- У банку дзьвесьце! -- звярнуўся ён да тых, хто гуляў.

Пачаў раздаваць карты. Я таксама ўзяў адну. Першым гуляў Шчур.

-- Давай за 50!

Альфрэд суха вымавіў:

-- Пастаў куш!

-- Ня бойся. Не акантую цябе.

Шчур паклаў на стол 50 рублёў, дакупіў дзьве карты і прайграў, бо меў больш 21. Альфрэд згарнуў яго грошы да агульнай кучы.

Другім гуляў Жывіца. Нехта тузануў мяне за руку. Я азірнуўся. Убачыў малады, дзіцячы твар перамытніка, які дапамагаў сьпяваць Лорду.

-- Чаго хочаш? -- запытаўся ў яго.

-- Пакажы карту. Хачу "памазаць"! -- адказаў мне перамытнік.

Я паказаў яму дзесятку.

-- Добра! -- вымавіў. -- Мажу гузіка.

Ён даў мне залатую манету.

Жывіца прайграў. Надышла мая чарга. Я паставіў трыццаць рублёў і выйграў. Аддаў свайму супольніку дваццаць рублёў, але той ня ўзяў. Прамовіў:

-- На другі раз застанецца.

-- Добра. Як цябе завуць? -- запытаўся ў яго.

-- Кручок, -- адказаў хлопец.

Гульня працягвалася. Амаль усе прайгравалі, ва ўсялякім разе тыя, хто ставіў вялікія грошы. Сашка таксама прайграў сто рублёў. Ён быў апошнім на чарзе.

Альфрэд ператасаваў карты. Пачаўся другі тур. Шчур уважліва сачыў за яго рухамі. Раздалі карты. Шчур паклаў на стале 100 рублёў.

-- Пайшло на сто!

Альфрэд даў яму карту.

-- Досыць! -- вымавіў Шчур.

Альфрэд узяў дзьве карты і адкрыў іх:

-- Дзевятнаццаць.

Шчур прайграў. У яго было ўсяго 17.

Наступны 50 рублёў прайграў Жывіца. Я дадаў да 20 рублёў Кручка 30 сваіх. Шчур сказаў мне:

-- Мажу 50.

Я выйграў 100 рублёў і аддаў ім выйгранае.

Пад канец другога тура банк вырас амаль у сем разоў. Там было больш за 1 300 рублёў. Альфрэд хваляваўся. Яго твар пачырванеў. На ім паказаліся кропелькі поту. Ператасаваў карты і раздаў. Ішоў трэці, апошні тур.

Шчур паставіў адразу 170 рублёў. Усё, што меў. Узяў карты і -- прайграў. Жывіца таксама прайграў. Ён зьвярнуўся да мяне:

-- Пакажы карту!

У мяне быў туз. Жывіца прамовіў:

-- Мажу 300 рублёў.

Даў мне грошы. З другога боку Сашка падсунуў мне два банкноты па сто даляраў. Кручок даў 50 рублёў. Бачачы гэта, я зразумеў, што яны хочуць адыгрsuccа і ўзяць з банка. Паставіў 100 рублёў. Шчур падышоў да мяне:

-- Можаш паставіць за мяне 200 рублёў?.. Калі прайграю, заўтра аддам табе.

-- Добра.

Паставіў разам 200 даляраў і 650 рублёў. Рукі ў Альфрэда трэсьліся. Шчур, нахіліўшыся над сталом, уважліва сачыў за кожным яго рухам.

Альфрэд узяў сабе адну карту, пасьля павагаўся хвіліну перад тым, як даць мне другую карту. Шчур не зводзіў вачэй зь ягоных рук. Альфрэд даў мне карту. Гэта была дзесятка... Я выйграў.

Захрыпеўшым голасам Альфрэд адлічыў мне грошы.

-- Клёва, -- прамовіў Лорд. -- Маеш, браце, шчасьце!

Банк зьляцеў напалову. Праз некалькі наступных хадоў зноў падрос. Дайшла чарга да Сашкі. Ён адрывіста вымавіў:

-- Банк.

-- Як? -- зьбялеўшы, запытаўся Альфрэд.

-- Кажу: банк!

**Працяг.**
**Пачатак у № 29—35.**

Марыя ДУБОЎКА

# МАЕ САНАТОРЫІ І КУРОРТЫ

## УРЫВАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ

### МАЯ ПАЕЗДКА Ў АЛАТЫРСКІ ЛАГЕР І НАША АПОШНЯЯ СУСТРЭЧА ПЕРАД АДПРАЎКАЙ УЛАДЗІМІРА МІКАЛАЕВІЧА Ў ДАЛЁКІЯ ЛАГЕРЫ

У 1937 годзе, пасля арышту Уладзіміра Мікалаевіча ў ліпені месяцы, калі пачалі прымаць перадачы, мне прыходзілася ў дні перадач ноччу займаць чаргу, каб паспець перадаць. Нас разганялі, мы хаваліся на вуліцы за бярвеннямі, за будоўлямі, а пасля зноў збіраліся. Прымалі толькі бялізну і адзенне. Назад брудную бялізну не выдавалі, і я кожны раз перадавала патрошку, каб пераканацца, што Уладзіміра Мікалаевіча яшчэ не адправілі. Іншы раз прыходзілася назіраць цікавыя сцэнкі: адна жанчына стаяла ў чарзе з перадачай для старога бацькі (работніка ГВЖД) і раптам бачыць, што з другога паверха спускаецца пад канвоем яе бацька -- канваіраваў малады ахоўнік. Можа яго вялі з допыту -- не ведаю. Дачка вымае плітку шакаладу, падбягае да бацькі і совае яму гэту плітку ў кішэню. Перапалоханы ахоўнік шэпча: "Што вы робіце, нельга", -- і яшчэ глыбей засоўвае ў кішэнь старога шакалад.

Аднойчы, ужо ў канцы лістапада ці снежня, мне сказалі, што перадачы мужу не прымаюць. Я зразумела, што яго ўжо адправілі, і была вельмі занепакоена ў сувязі з тым, што цёплых рэчаў я яму яшчэ не перадавала. Выпадковая знаёмая па начных чэргах, мясцовая жыхарка, сказала мне пры сустрэчы, што яна чула, нібы іх адправілі ў лагер бытавікоў каля Алатыра. Я сабрала, што трэба: зімовае паліто, валёнкі, дзве шарсцяныя коўдры, сёе-тое яшчэ і, вядома ж, прадукты і адправілася ў дарогу. Памятаю, што туды трэба было ехаць на "кукушцы" па вузкакалейцы, па якой вывозілі з лагера, здаецца, лес, нарыхтаваны зняволенымі. Вагоны таварныя, высокія. Толькі ўлезеш у адзін з усімі рэчамі, а цябе гоняць у карак разам з клункамі, і так некалькі разоў. І усё ж я ехала ў нейкім вагоне, памятаю, нада мной быў вялізны бак, у якім булькала вадкасць, відаць, вада, а можа гаручае. Мне ўсё здавалася, што ўся гэта махіна абрушыцца мне на галаву. Урэшце паказаліся агні ўздоўж калючага дроту, і я зразумела, што мы прыбылі. Ішлі па сцежцы, пакуль нас не спыніў вокрык: "Стой, хто ідзе?" Мы адказалі, як нас навучылі: "Прыехалі на спатканне". Прагучаў загад: "Далей не рухацца да раніцы, пакуль не адчыніцца кантора". Куды дзецца? Я і мая спадарожніца разгледзелі ў цемры хлеў, прабраліся ў яго і да раніцы сядзелі побач са свіннямі і яшчэ нейкімі жывёламі. У 9 гадзін мы накіраваліся ў кантору лагера. Гэта быў бытавы, пастаяннага дзеяння лагер, а палітычных, аказваецца, прывезлі сюды як у перасылку перад адпраўкай у далёкія лагеры. Да пастаянных бытавікоў часта ездзілі на спатканне, ва ўсякім разе гэта была звычайная з'ява, а адносна палітычных, якія тут знаходзіліся часова, не было ніякіх распараджэнняў наконт спатканняў і перадач. Ва ўсякім разе за невялікі падарунак мне ўдалося пабачыцца і пагаварыць з Уладзімірам Мікалаевічам на адлегласці, і пры мне яму тут жа перадалі ўсё, што я яму прывезла з адзення і прадуктаў. На маё пытанне, ці ведае ён, што асуджаны на 10 гадоў далёкіх лагераў, -- у яго сказіўся, перасмыкнуўся твар, і тут жа: "Не можа быць, табе сказалі няпраўду, нічога ж няма, і пасля выбараў усіх нас вызваляць". А ў гэты час на станцыі Канаш для іх ужо рыхтаваўся цягнік на Далёкі Усход. Пра вырак ён даведаўся ўжо там, далёка на ўсходзе.

### ПЕРШЫ ЎДАР. ЛІПЕНЬ 1930 ГОДА

Мы жылі на дачы ў Пярлоўцы. Уладзімір Мікалаевіч працаваў у Крамлі ў вячэрнія часы. 20 ліпеня прыехала з Масквы яго маці і сказала, што Валодзю, відаць, арыштавалі на працы, таму што на маскоўскую кватэру прыязджалі па яго, прасілі паведаміць ім адрас дачы, а маці сказала, што яна можа іх давезці, гэта значыць паехаць з імі і паказаць дом, а назву вуліцы і нумар дома яна не ведае. Яны адмовіліся ад яе паслуг і чакалі на кватэры, пакуль ён не паехаў на працу на 5 гадзін вечара, і калі яго арыштавалі, тады і з кватэры выехалі. Цікавіліся, ці ёсць зброя. Паўлік[1] паказаў ім у куце сукаватую палку.

Быў першы спакотны дзень гэтага лета, і Уладзімір Мікалаевіч апрануў белы касцюм і надзеў сандалі.

Маці Уладзіміра Мікалаевіча засталася на дачы з Алікам, а я паехала расшукваць Уладзіміра Мікалаевіча. На мае пытанні ва ўсіх турмах і МДБ (ці як яно тады называлася?) мне адказвалі -- "такога няма". Тады мне падказалі не пытацца, "ці ёсц[illegible]кі і такі", а проста несці пер[illegible]. У Бутырках мне сказалі: "Ёсць, але перадачы яму не дазволены", а ў наступны раз сказалі: "Такога няма і ніколі не было".

Звычайна мы з Алікам хадзілі да цягніка сустр[illegible]ць Уладзіміра Мікалаевіча, [illegible]н (Алік) кожны дзень у адлаведны час цягнуў мяне ці бабулю за руку і паўтараў: "Тату". Прыходзілася хадзіць з ім на станцыю, і ён журботна вяртаўся дадому, не сустрэўшы тату. Сябры і прыяцелі не паказваліся. Параіцца не было з кім. Адзін Кунцэвіч паводзіў сябе высакародна і, я б сказала, мужна. Часта прыязджаў даведацца, ці няма чаго новага, і, калі мне трэба было кудысьці ісці па справах Уладзіміра Мікалаевіча і не было куды падзець Аліка, ён хадзіў з ім у гэты час гуляць па скверы. Здаецца, ён параіў мне звярнуцца да Адамовіча, які тады працаваў у Маскве ў цукровым трэсце. Адамовіч сказаў: "Паспрабуйце пашукаць яго ў Мінску". Адзін з "сяброў" Уладзіміра Мікалаевіча Станкевіч Канстанцін толькі што вярнуўся з Мінска, і я пайшла да іх у надзеі атрымаць хоць нейкія звесткі. Ён спаў ці прыкідваўся, што спіць, у другім пакоі, і ці я, не дачакаўшыся, адчыніла туды дзверы, ці жонка, адчуваючы няёмкасць за яго, і я бачыла яго на ложку, спіной да сцяны. На маё пытанне, ці не ведае ён чаго пра Валодзю, ён, нават не паварочваючыся, прамармытаў нешта нечленараздзельнае. Я паднялася і пайшла да выхаду. Жонка прапанавала, здаецца, гарбаты, але ж мне патрэбна было не гэта. І пайшла.

Сабрала я што-нішто з адзення і харчоў і паехала ў Мінск. У ЧК у Мінску мне сказалі, што Дубоўка тут, але ніякіх перадач яму не дазволена. А ў яго акрамя белага касцюма і сандаляў нічога няма. Калі яго везлі з вакзала ў камендатуру, то нехта яго бачыў, таму што пайшлі чуткі, што людзей, маўляў, пачалі хапаць у адной бялізне з пасцелі.

Пайшла я ў ЦК партыі Беларусі і папрасілася на прыём да першага сакратара ЦК Васілевіча. Ён мяне прыняў. На маё пытанне: "Ці тут Дубоўка?", ён адказаў: "Так, тут". Я сказала, што хацела б пераканацца ў гэтым, таму што бывала і так, што мне казалі -- "тут", а затым -- "няма і ніколі не было". На яго пытанне: "Чаго ж вы хочаце?", я сказала, што мне трэба перадаць мужу рэчы і атрымаць ад яго даверанасці на грошы, якія былі ў яго на кніжцы па месцу працы. Дык вось, напісаная яго рукой даверанасць і распіска аб атрыманні перададзеных рэчаў і былі б доказам таго, што ён тут. Тады Васілевіч сказаў: "Бачыце, але ж бываюць не толькі меры фізічнага ўздзеяння". "Ах, вось як, -- адказала я, -- значыць, трэба так разумець -- прызнавайся ў тым, чаго ты не рабіў, а пакуль твая сям'я будзе сядзець без грошай -- так, ці што?". Тады ён здымае трубку, вызывае Рапапорта (начальнік ЧК) і кажа: "Тут прыехала жонка Дубоўкі, трэба прыняць ад яе рэчы і выдаць ёй даверанасці". Пасля гэтага ад мяне без затрымкі прынялі рэчы, і я атрымала патрэбныя мне даверанасці на зарплату і на грошы на ашчаднай кніжцы на нязначную суму. Прыкладна таксама месячная зарплата. У яго ніколі не магло быць зберажэнняў пры яго шырокай натуры. І ніхто ж не чакаў такога. Уладзімір Мікалаевіч заўсёды быў аптымістам і нічога дрэннага не мог чакаць.

Аб харчовых перадачах на гэты раз не хацелі і размаўляць -- "вядзецца следства".

Праз некаторы час да нас на Малую Грузінскую прыйшоў швейцар з Беларускага паўпрэдства і сказаў, што прыехаў Галадзед і што, можа, трэба з ім пагаварыць пра Уладзіміра Мікалаевіча. Я пайшла ў паўпрэдства і размаўляла з Галадзедам. Ён сказаў, што вяртаецца ў Мінск з паездкі на поўдзень, нічога зараз сказаць не можа, а адносна харчовых перадач, калі я сказала, што незразумела, што гэта за ўмовы Аляксееўскага равеліна -- такая строгасць, ён сказаў, каб я прыехала ў Мінск, і ён пастараецца дапамагчы. У Мінску ён мяне прыняў, сказаў, што можна перадаць пасылку або пісьмо і дадаў: -- "Я ўпэўнены, што ўсе нашы хлопцы хутка будуць свабодныя". Ці думаў ён так на самай справе -- не ведаю.

Наконт харчовых перадач я толькі сказала, што зусім немагчыма, каб перадачы перадавалі толькі для Дубоўкі, што тады ўжо лепш не трэба. Ні на адну мінуту я не думаю, што мая размова мела нейкі ўплыў, відаць, надышоў такі час, калі следчыя ўлады знайшлі магчымасць дазволіць, але факт, што перадачы пачалі прымаць рэгулярна. Уладзіміру Мікалаевічу перадавала Аня Бабарэка, а мы рэгулярна прысылалі ёй харчовыя пасылкі для Уладзіміра Мікалаевіча.

У яе я ў адзін са сваіх прыездаў у Мінск бачыла Уладзіміра Жылку. Ён быў вельмі хворы, і яго адпусцілі з турмы да высылкі. Выглядаў ён дрэнна, цяжка дыхаў. Між іншым, я памятаю, ён сказаў, што ў турме ён вельмі сумаваў па сваёй маленькай дачцэ: "Штосьці жахлівае (часты яго выраз), увесь час яна скача ў мяне перад вачыма, як толькі я іх заплюшчу".

У Мінску іх трымалі 10 ці 11 месяцаў, і ў маі ці ў чэрвені яны ўжо былі ў перасыльнай турме ў Бутырках. Ужо быў вядомы прысуд -- 5 гадоў адміністрацыйнай высылкі ў г. Яранск. Перад адпраўкай было дазволена спатканне. Былі я з сынам і маці. Уладзімір Мікалаевіч быў вельмі бледны, і была прыкметная адутлаватасць.

[1] Малодшы брат У. Дубоўкі.

Працяг.
Пачатак у № 35.



**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшоў семінар, арганізаваны беларускім аб'яднаннем татар "Аль-кітаб", што ў перакладзе значыць "Свяшчэнная Кніга". Мэта яго -- узняць цікавасць да культуры беларускіх татар.**

**Сёлета спаўняецца 600 год з таго часу, як яны пасяліліся на Беларусі. Цяпер іх налічваецца больш дванаццаці тысяч.**

**Удзельнікі семінара азнаёміліся з выставай рэдкіх старадаўніх татарскіх кніг, галоўнай асаблівасцю якіх з'яўляецца тое, што беларускія тэксты напісаны арабскай графікай. Гэтыя кнігі датуюцца XYI стагоддзем.**

**НА ЗДЫМКУ: Якуб ЯКУБОЎСКІ дэманструе старадаўні татарскі кітаб -- кнігу, у якой сабраны легенды, казкі і паданні.**

# З РОДУ КУНЦЭВІЧАЎ-АГІНСКІХ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Ён на нейкай пасадзе гэткага кшталту і працаваў у тамтэйшым калгасе Рудні Кашалёўскай. Рукі меў залатыя, бо яшчэ ў мінулым стагоддзі ў Варшаве скончыў механічную школу, якая па сённяшніх мерках давала сярэднюю спецыяльную адукацыю, -- тлумачыў мне Ігар Аляксандравіч.

Зразумела, [illegible]у Чыкеру гора ў трыццат[illegible] гады давялося хапануць, як нашчадку "кулацкага элемента". Хлапчука не прымалі ў піянеры. Вытурвалі са школы, калі дазнаваліся, хто яго дзед. За шэсць даваенных гадоў вучобы [illegible] Чыкер змяніў аж т[illegible] школы: Камінтэрнаўск[illegible]ю, Бушаўскую і Буда-Кашалёўскую. Бацька, кадравы вайсковец, пасля ўсяго кінуў сям'ю. Часта мяняла месцы сваёй працы і маці, Ніна Іванаўна. Так што малы Ігар у асноўным жыў з бабуляй, якая неўзабаве вярнулася дамоў з Салаўкоў.

Наконт жа прозвішча "Агінскі", якое пасля злучка дадавалася да прозвішча "Кунцэвіч", Ігар Аляксандравіч дае такія тлумачэнні: дзед, Іван Фёдаравіч, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі чэкісты за "громкае" сацыяльнае паходжанне маглі папросту паставіць "да сценкі", змяніў дакументы і найбольш "славуты" дадатак да свайго прозвішча "Агінскі" зліквідаваў. Гэты дадатак застаўся толькі ў ягонай дваранскай грамаце, ну і ў прозвішчах родзічаў, якія жылі за мяжой, у той жа Польшчы. Усё гэта, зразумела, можна аднавіць.

І, дарэчы, аднаўлялі. У 1969 годзе адзін сярэдняй рукі чыноўнік з сістэмы дзяржпарткантролю БССР, каторы жыў з сям'ёй Ігара Аляксандравіча ў кватэры на агульнай кухні і паклаў вока на пакой, што займаў сусед з сям'ёй, абвінаваціў мастака ў дысідэнцкіх настроях: маўляў, па-першае, не камуніст, па-другое, -- дваранчык, шляхцюк з роду Агінскіх і Кунцэвічаў. Ён па сваёй ахвоце аб'ехаў усе мясціны, звязаныя з жыццём гэтых продкаў Ігара Аляксандравіча, і даказаў ягонае "непралетарскае", чужое для савецкага грамадства паходжанне. Прадставіў доказы ў КДБ.

Справа дайшла да таго, што прадстаўнік "канторы" запатрабаваў тлумачэнні ад мастака, да якіх трэба было прыкласці ўзнагароды. Але за Ігара Аляксандравіча заступіліся ветэраны вайны і тагачасная намесніца старшыні Дзяржпарткантролю Ганна Дзмітрыеўна Наседкіна. Тлумачэнне "падазронага ў дысідэнцтве" было прынята да ведама, заступніцтва ветэранаў вайны -- таксама. Узнагароды вярнулі. Падпісваць карціны з ужываннем прозвішча славутага продка, які "ўдзельнічаў у паўстанні польскіх, беларускіх і літоўскіх сялян супраць прыгоннага права і нацыянальнага ўціску", дазволілі.

-- Такім чынам, я сёння павінен свайму былому "апаненту" казаць вялікі дзякуй. Дзесьці ляжаць ягоныя пераканаўчыя доказы, якія пацвярджаюць маё паходжанне, -- рассмяяўся Ігар Аляксандравіч.

Ён мне расказаў, як гітлераўцы прапаноўвалі дзеду, як прадстаўніку славутага роду, чалавеку, рэпрэсіраванаму Саветамі, стаць бургамістрам Чачэрска або Буда-Кашалёва, але стары адмовіўся. Не расстралялі, бо нават ворагі шанавалі Агінскіх... А дзед свайго падлетка-ўнука справадзіў у партызанскі лес, дзе Ігар ваяваў да самага вызвалення Гомельшчыны. А потым пайшоў на фронт, стаў разведчыкам-штурмавіком аднаго са спецпадраздзяленняў Рэзерву Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. Браў "языкоў", захопліваў з сябрамі па зброі плацдармы для наступаючых войскаў, штурмаваў логава фашыстаў. А пасля вайны скончыў мастацкае вучылішча ў Мінску. Удзельнічаў у выставах, у конкурсах, працаваў на розных пасадах у "худкамбінаце". Але ў Саюз мастакоў двойчы не прынялі. Зноў спрацавала "псіхалогія пралетарыяту": не член КПСС, шляхцюк-дваранчык, не наш чалавек...

А работы спадара Чыкера-Агінскага, сапраўды, заслугоўваюць увагі. Асабліва -- іканастас, на якім -- лік Ісуса Хрыста па-над зіхатлівым сонцам у блакітным яркім небе, а злева і справа ад Сына Божага -- херувімы. Ужо адзін касцёл зацікавіўся гэтай кампазіцыяй...

Што ж тычыцца славутага продка, то ягоны партрэт ужо ў задуме мастака. Будзем спадзявацца: Ігар Аляксандравіч яе здзейсніць.

Мяне ўразіла больш за ўсё духоўная пераемнасць нашчадка з продкам: у цяжкую часіну бараніць Радзіму, любіць Беларусь і зычыць ёй незалежнасці, жыць у сяброўстве з народамі-братамі і найперш -- з польскім ды расійскім, а яшчэ сваім мастацтвам -- служыць Бацькаўшчыне. Між намі, Ігар Аляксандравіч больш ахвяруе бясплатна свае карціны людзям, чым гандлюе імі, хаця жыць і яму трэба. Толькі Буда-Кашалёўскай СШ N 2 падарыў некалькі дзесяткаў сваіх палотнаў... Што ж, на добрую справу яму не шкада плёну свайго таленту, як не шкадавалі некалі грошай на стварэнне тэатраў Міхал Казімір ды Міхал Клеафас Агінскія...

Алесь СЕРГІЕВІЧ.

## *СТАРОНКІ З "ВІЦЕБСКАГА АЛЬБОМА"*



Сучасную вуліцу Талстога ў Віцебску распачынаюць два прыгожыя будынкі, узведзеныя ў сярэдзіне мінулага стагоддзя.

Першапачаткова вуліца называлася Падзвінскай [бо выводзіла да прыстані на рацэ Дзвіне] і размяшчалася ў трэцім па ліку віцебскім замку -- Узгорскім. Ускрытыя падчас археалагічных раскопак першыя драўляныя пабудовы на ёй датуюцца XYII стагоддзем. У больш познія часы, як адзначаў у сваіх успамінах вядомы беларускі этнограф і фальклярыст М.Нікіфароўскі, на вуліцы ўвесь час віравала гандлёвае жыццё горада, "выконвалася патрэба служылая і гандлёвая, для якой тут жа знаходзіліся лепшыя магазіны і крамы".

Уладарамі абодвух будынкаў на пачатку вуліцы былі купцы браты Вітэнбергі. У 1900-х гадах адзін з дамоў набыў у братоў Маскоўскі міжнародны гандлёвы банк, другі -- Маскоўскі зямельны банк, якія адчынілі ў іх свае віцебскія аддзяленні.

Маскоўскі гандлёвы банк выдаткаваў грошы на значную пераробку будынка сваёй віцебскай філіі, пасля чаго яна набыла выразна акрэсленыя рысы рэспектабельнай установы грамадскага прызначэння. Перабудова праводзілася па праекту і пад кіраўніцтвам галоўнага архітэктара Віцебска Ціхана Кібардзіна. Новы галоўны фасад будынка з трохкутным франтонам у цэнтры быў вырашаны ў стылі ампір. Асаблівую прывабнасць яму надавалі ажурныя металічныя рашоткі і кансолі балконаў другога і трэцяга паверхаў.

Дом зямельнага банка значных пераробак не перацярпеў. З цягам часу яговыя памяшканні сталі здавацца ў арэнду. З 1906 па 1910 год у будынку размяшчалася Віцебская прыватная 4-класная прагімназія Івана Неруша, у якой вучыліся хлопчыкі ад 8 да 13 гадоў. Сярод выкладчыкаў прагімназіі сустракаем імя ўжо згаданага вышэй Мікалая Нікіфароўскага. З гэтай нагоды гарадскімі ўладамі вырашана ў бліжэйшы час усталяваць на будынку мемарыяльную дошку ў гонар славутага фалькларыста, юбілей якога сёлета шырока святкаваўся на Віцебшчыне.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ:** дамы N 2 і N 4 па вуліцы Талстога ў Віцебску.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



**У школу — разам.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*СПОРТ*

## ПЕРАМОГА Ў ГАСЦЯХ

У розыгрышы Кубка УЕФА мінскаму "Дынама" трапіўся моцны арэшак -- аўстрыйская "Аўстрыя", на ліку якой нямала перамог над мацнейшымі клубамі Еўропы. Чакалася, што беларускім футбалістам на выездзе будзе нялёгка.

Аднак наша каманда, можна сказаць, перасягнула сама сябе. Менавіта госці, а не гаспадары дыктавалі ўмовы гульні. Ужо на 25-й хвіліне капітан дынамаўцаў Уладзімір Журавель адкрывае лік. А потым Юрый Шуканаў незадоўга да перапынку падвойвае вынік.

І толькі за шэсць хвілін да заканчэння матча аўстрыйцам удаецца адыграць адзін мяч. Добрая заяўка на выхад у наступны круг зроблена. Так бы ўдала мінчанам сыграць у матчы ў адказ і дома, дзе, як вядома, і сцены дапамагаюць.

## У СВАІМ СТЫЛІ

Адкрыты чэмпіянат ЗША па настольнаму тэнісу называюць неафіцыйным першынством свету. Бо ўдзел у ім, як правіла, прымаюць усе мацнейшыя спартсмены. Свае надзеі мы звязвалі з мінчанкай Наталляй Зверавай. У адзіночным разрадзе вялікага поспеху яна не дамаглася. А вось у парным разрадзе разам з амерыканкай Дж. Фернандэс заняла першае месца.

Цяжка назваць спаборніцтвы, дзе гэты дружны дуэт не станавіўся б пераможцам.

**Яўген ІВАНОЎ.**

# Я АД ВАС ДАЛЁКА...

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Яна такім казала: "Я -- Ванда Лёсік! І гэтага прозвішча я ніколі не выракуся. Калі хочаце мець са мною якоесь ліставанне, то так і пішыце, як і значуся ў сваёй сям'і". Такая мужна прынцыповая Вандзіна пастава астуджвала некаторых, вымушала больш не звяртацца да яе. Усё ж многім тады яшчэ муляла забароненае прозвішча Язэпа Лёсіка. Дый сама Ванда не кожнаму лісту давярала. З 1964 года ў яе аднавілася ліставанне з Зоськай Верас, даўняй прыяцелькай, аднадумцай. Вось ёй то яна давярала ўсё. Дык вось у адным лісце з Татаркі Ванда пісала: "Тут піша да мяне адзін нейкі дзядзька з Мінску, дык Ты гэтых звестак яму не давай. Я напісала гэта для Цябе".

З тае пары, як знайшліся Ванда з Зоськай Верас, у Татарку зрэдку пачалі прыходзіць беларускія кнігі, газеты. Гэта нейкім чынам вяртала Ванду да ўспамінаў пра тое жыццё, якое яна разам з іншымі нашаніўцамі ладзіла на пачатку XX стагоддзя. У адным з шасцідзесятых гадоў лісце да Зоські Верас Ванда пыталася, а ці выходзіць у Вільні хоць якая беларуская газета. Ванда, як бачым, жыла на высылцы тымі ўяўленнямі, якія мела з маладосці.

Горка і крыўдна было чытаць гэтыя радкі. Горка, што гэтак Ванду адлучылі ад роднага краю, што яна не арыентуецца, [illegible] такое Вільня пасляваенная, [illegible]ня шасцідзесятых гадоў. Крыўдна было і сказаць ёй, што ў беларускай колісь Вільні, не раўнуючы як на пачатку XX стагоддзя і да 1939 года, за саве[illegible] зніклі і беларускія газеты, [illegible]лы, і іншыя беларускія асветныя ўстановы. Вось такая яна была, наша колісь беларуская рэчаіснасць -- суровая, блытаная, незразумелая, тлумная.

Да мяне самога постаць Ванды Лявіцкай прыйшла позна, гэтак жа, як постаць Ядвігіна Ш., і я ўжо толькі праз Вандзіных дзяцей і Зоську Верас і, вядома ж, праз архіўныя дакументы пачаў спазнаваць Лявіцкіх, Ванду, каб расказаць пра яе іншым. Я адчуў, што гэта была ахвярная і апантаная постаць. Для яе не было нічога даражэйшага ў жыцці, як шчыраваць для Беларусі, для яе народа. І вось за гэта ёй, яе сям'і, яе мужу, усяму іхняму старому шляхетнаму роду такая падзяка. Ёй дужа хацелася завяршыць сваё жыццё на Беларусі, каб яе магілка была сярод белых бяроз, выносных сосnaў і разлапістых ялін, сярод якіх яна вырасла, выгадавалася, якія яна разумела, з якімі яна магла, як з людзьмі, размаўляць, якія памяталі яе дзядоў і прадзедаў. Ды з волі злых і чужых людзей яна мусіла лепшыя гады свайго жыцця пражыць, змарнаваць удалечыні ад роднага краю, роднай старонкі. За што такі глум?

Колькі яна слёз выплакала, колькі выпакутавала! Тым не менш,паводле Алесіных слоў, "далёка ад Беларусі, без мужчынскай падтрымкі, без усялякіх сродкаў да існавання Ванда засталася чалавекам і навучыла іх любіць тое, што яны заслужана маглі б зненавідзець". Яна ўсё ж, нягледзячы на пачатковую ўмову гаварыць толькі па-расейску, навучыла сваіх дзяцей на высылцы, прынамсі Алесю, роднай мове. Падумала: як жа так? Сваімі рукамі замураваць дзяцей, адгарадзіць ад роднай мовы! Што ж гэта я? Не дачакаецеся! І хоць дамаўляліся на самым пачатку, што дома мусяць гаварыць адно толькі па-расейску, але спакваля, як толькі дзеці трохі справіліся з расейскаю моваю, Ванда пачала вучыць іх і сваёй роднай мове, расказвала ім казкі, паданні, легенды, вершы -- тыя, што чула ад таты -- Ядвігіна Ш., што сама пісала, што чула ад людзей. Яе дачка Алеся памятае шмат якія беларускія вершы, без асаблівай цяжкасці чытае беларускія кніжкі, трэба -- то і напіша штокольвек па-беларуску. Гэтаму вучыла Мама, гэтаму вучыў Тата, знаны беларускі мовазнаўца. І святая памяць пра іх абавязвае хоць як перадаваць сваё роднае дзецям і ўнукам. Ва ўсякім разе многія з іх ведаюць, што дзесь на Беларусі ёсць вабны і ўтульны куточак Карпілаўка, адкуль карані іхняй бабулі Ванды Лёсік з Лявіцкіх.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

## ПАДРУЧНІКІ ПАДРУЧНІКАМІ...

Але зусім не лішнім будзе, калі бацькі прыдбаюць сваім дзеткам, якія вучацца ў малодшых класах, кніжку "Ты жывеш у Беларусі". Выпусціць яе паруліўся часопіс "Беларуская мінуўшчына", а напісалі Т. Лойка і У. Навумовіч. Мастачка ж М. Калініна зрабіла дасціпныя малюнкі. І сам тэкст, і ілюстрацыі дазваляюць атрымаць уяўленне пра нашу зямлю, яе людзей, грамадскі лад краіны. Пра ўсё гэта расказваецца даходліва і проста. Вось як, напрыклад, гаворыцца пра нашу мову: "Нашы продкі размаўлялі на сваёй -- беларускай мове. Перасяленцы іншых краін прынеслі з сабой сваю мову -- рускую, польскую, яўрэйскую... Кажуць, што наша мова простая. Сапраўды, яна гучыць нязмушана, лёгка для нашага горла і дыхання. Яна багатая на інтанацыі, спеўная. Нездарма мова наша так прыдатная для вершаў і спеваў. На зямлі налічваецца звыш дзвюх тысяч моў. Беларуская мова сярод іншых моў народаў свету -- адна з самых старажытных. Мова -- гэта першая адметная рыса кожнага народа".

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма") .



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 3826. Падпісана да друку 18. 9.1995 г.